# ЗЬМЕСТ



---

1-ая Дзярж. друк. Заказ № 144. У ліку 6.000 экз. Галоўлітбел № 2122.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

II год выданьня | Кастрычнік 1926 г. | № 10



## Вынікі конкурсу на лепшую гаспадарку.

У с.-г. кніжках для сялян нават за апошнія 10-20 г. можна часта чытаць, як умеюць добра гаспадарыць сяляне Даніі, Бельгіі, Нямеччыны, а нам трэба з іх браць прыклады. Але ці так усё гэта? Ці так ужо патрэбна нам біць паклоны заморскай (сапраўды культурнай) гаспадарцы і нічога не рабіць для вывучэньня лепшых дасягненьняў нашых сялян? Мо' і тут, у сябе, можна знаходзіць такіх «дацкіх сялян»? І праўда, у нас ёсьць шмат сялян, на гаспадарках якіх можна вучыцца. Так упэўнена будзе казаць кожны, хто азнаёміцца з гаспадаркамі, якія выступалі на I Усебеларускім конкурсе на лепшую гаспадарку.

Да гэтага часу некаторыя культурныя гаспадаркі былі мала выяўлены. Аб іх ведалі толькі бліжэйшыя суседзі. А між тым дасягненьні такіх гаспадарак заслугоўваюць большай увагі.

Конкурс на лепшую гаспадарку даў багаты матар'ял, адкуль відаць выразныя гаспадарчыя дасягненьні селяніна і на бедных беларускіх глебах. У большасьці ўсе ўдзельнікі конкурсу могуць лічыцца сялянамі-культурнікамі або дасьледчыкамі. Шмат хто з іх мае старую, добра збудаваную яшчэ да вайны гаспадарку, але ёсьць шмат гаспадарак, якія ўтварыліся пасьля вайны і рэволюцыі. Вядома, дасягненьні апошніх гаспадарак набываюць яшчэ большую цану. Перайдзём цяпер да ацэнкі галоўных вынікаў конкурсу [1]).

Папершае, у большасьці гаспадарак звaрачвае на сябе палявая гаспадарка. Тут, як правіла, шматпольны севазварот, правільны выраб поля, воранка на зяб, пажніўнае лушчэньне, раньні папар; з угнаеньняў апрача гною кожны гаспадар карыстаецца яшчэ дадатковымі ўгнаеньнямі, як лубін, торф, кампост, попел, а то і мінэральныя ўгнаеньні. Севазвароты розныя—ад чатырохпольных да 8-9 польных. Сувязь ў сыстэме ўсіх прыёмаў тэхнікі палявой гаспадаркі ня можа пярэчыць і самым апошнім вымаганьням агрономіі. Вось чаму і даволі высокія ўраджаі гаспадарак, якія паказаны ў апісаньнях, можна палічыць за натуральныя і мажлівыя.

Для прыкладу паказваю ўраджай гаспадаркі Мельнікава Аркадзя з Бабруйшчыны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Жыта | 125 пуд. | Кармовыя буракі | 2600 пуд. |
| Авёс | 100 „ | Канюшына | 350 „ |
| Бульба | 1400 „ | Сена сенажаці | 250 „ |

У Петры Бернгарда з Полаччыны (адна з высокакультурных гаспадарак) ураджаі мала чым меншыя—

[1]) Якія гаспадаркі і за што атрымалі прэміі і дыплёмы гл. газэту „Сав. Бел." за 7/X.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Жыта | 120 пуд. | Бульба | 700 пуд. |
| Авёс | 80 „ | Аўсавычка | 180 „ |
| | | Канюшына | 300 „ |

У пасялкоўца Вяліханава С. (Менская акруга) праз тры гады працы, жыта дасягае 120 пуд. з дзес.

У большасьці такія ўраджаі маюць гаспадаркі старыя і хутарскія. Гаспадаркі з празпалосіцай і прымусовай трохпалёўкай знаходзяцца ў горшых умовах. На трохпалёўцы гэтыя гаспадаркі дасягаюць павышэньня ўраджаяў толькі дзякуючы лепшай апрацоўцы поля і большаму ўгнаеньню, пасевам лубіну, кампостам і г. д. Значна падняцца над ураджаямі суседзяў празпалосьнікам цяжка. Аднак, Мелех І. (Мазыршчына) селянін-празпалосьнік, дасягае ўраджаяў жыта 199 пуд. на дзес. (жыта было пасеяна па лубіну з прыбаўкай тарфянога ўгнаеньня і кампосту).

Падругое, ня горшыя дасягненьні мае і жывёлагадоўля конкурсных гаспадарак. У большасьці гаспадароў хлявы цёплыя, сьветлыя і з кармушкамі для жывёлы. Кармленьне малочнай скаціны па нормах; у склад корму ўваходзіць сена, канюшына, кораньплоды, высеўкі, макуха. Летам кароў падкармліваюць зялянінай, а то і макухай.

Догляд таксама культурны. Малочныя каровы мясцовыя палепшаныя, мэтысы і завадзкія. Удоі дасягаюць 200 вёдзер у год.

У селяніна Францкевіча В. з Барысаўшчыны—130 вёдзер, у Мельнікава (Бабруйшчына)—205 п., у Петры Бернгарда (Полаччына)—240 в.

Дасьледчую або лепш практычна назіральную працу гэтыя гаспадаркі вядуць даўно, а некаторыя яе пачалі нядаўна, як селянін Тарасенка Трахім з сынам, з сяла Бракава Магілеўскага раёну.

Прыклад працавітасьці гаспадароў паказала гаспадарка Аляксея і Базыля Сьпірыдовічаў (Полацкая акруга). Гэта гаспадарка амаль цалком заснавалася на балоце пасьля яго асушэньня. За некалькі год гаспадары пракапалі сваімі рукамі да 4-х вёрст канаў і балота зрабілі культурнай плошчай.

Наогул, трэба сказаць, што конкурс выявіў каля сотні культурных і высокакультурных гаспадарак. Вядома, у конкурсе прымалі ўдзел ня ўсе культурныя гаспадаркі. Іх зможа выявіць далейшая праца агрономаў і конкурсы наступных год. Але і тое, што даў першы конкурс, трэба лічыць значным.

Зараз упэўнена можна скласьці сьпіс 10-20 гаспадарак па БССР. якім патрэбна ўвага Наркамзема, як і асаблівая ўвага агрономаў, каб іх культура расла далей. На гэтыя гаспадаркі можна пасылаць вучыцца экскурсіі сялян-піонэраў і нават студэнтаў—будучых агрономаў. У гаспадарцы Язэпа Мароза (Фатынь на Лепельшчыне) у мінулым ужо працавалі студэнты-агрономы па садоўніцтву.

А з усяго вынік адзін, што навуковы падыход селяніна ў сваёй працы, яго сувязь з агрономам, с.-г. гуртком, коопэрацыяй і кнігай—прыводзяць яго да ўраджаяў у 100-150 пуд. і больш. Амаль усе гаспадаркі конкурсу разводзяць сартовае насеньне, маюць пладовую школу і сад, некаторыя трымаюць добрага бугая ці жарабка і па рознаму выяўляюць агрыкультурны ўплыў на суседнія сялянскія гаспадаркі. І гэта—найбольш цікавы бок культурных гаспадарак і патрабуе далейшага паглыбленьня ў першую чаргу.

**Сьц. Тупяневіч.**




# Юбілей 5-й Гадавіны Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

30 кастрычніка БДУ сьвяткуе 5 гадавіну свайго існаваньня. Гэты дзень павінен быць вядомым усім працоўным і сялянскім масам Савецкай Беларусі, на абшарах якой узрос і на карысьць якой працуе унівэрсытэт.

Год адчыненьня унівэрсытэту, як вядома, зьяўляўся годам гаспадарчае разрухі ў нашым Саюзе. Натуральна, што пабудова такой вялікай установы, як унівэрсытэт, у той час зьяўлялася справай нязвычайна цяжкай, магчымай толькі ва ўмовах дыктатуры працоўных, якія адчувалі неабходнасьць нацыянальна-культурнага адраджэньня Савецкай Беларусі, дзе раней панаваў царскі гнёт. Унівэрсытэт у першыя дні свайго існаваньня павінен быў з вялікімі затрыманьнямі знайсьці адпаведныя памяшканьні, абсталяваць іх, здабыць падручнікі, адчыніць лябораторыі, габінэты, запрасіць навуковыя сілы. Адно гэта пералічэньне дае магчымасьць вызначыць, да чаго цяжка была пабудова У-ту.

Так, напрыклад, яшчэ да афіцыйнага адчыненьня У-ту, залічаныя на Мэдфак студэнты дастаўлялі ў анатомічны габінэт сталы, шафы, падрыхтоўвалі прэпараты па осьцеалёгіі (вывучэньне касьцей), з тым каб заняткі праходзілі больш-менш рэгулярна. У той час Мэдфак ня меў клінік, пэдфак габінэтаў. Толькі ў 1925 годзе Унівэрсытэт атрымаў належную колькасьць памяшканьняў.

Цяжкія, вельмі цяжкія былі абставіны працы студэнцтва і прафэсуры. Але ўсё гэта засталося ззаду. Унівэрсытэт амаль што скончыў організацыйны пэрыяд. Не застанаўліваюся дасканала на мінулым Унівэрсытэту (аб гэтым жадаючы будзе мець магчымым азнаёміцца ў спэцыяльна прысьведчанай гадавіне У-ту яго гісторыі), а застановімся на яго сучасным становішчы.

Унівэрсытэцкія будынкі канчаткова адрамантаваны. Абсталеваны студэнцкія інтэрнаты, сталоўкі. Габінэты снабжаны падручнікамі. Шырока разгарнулі працу унівэрсытэцкія клінікі.

Прафэсарскі склад налічвае значную колькасьць вядомых навуковых працаўнікоў.

На чатырох факультэтах—рабочым, пэдагогічным, мэдычным і ф-це права і гаспадаркі налічваецца 3368 студэнтаў.

Прафорганізаванага студ. 1533 чал.; яны аб'яднаны Выканбюро Прафсэкцый.

Поўныя стыпэндыі атрымоўвае 936 студэнтаў асноўных факультэтаў і 104 чал. атрымоўвае палову стыпэндыі.

Пэдагогічны факультэт за час свайго існаваньня даў 2 выпускі, мэдфак 1, былы ФГН—1. У лістападзе адбудзецца другі выпуск мэдфаку.

Побач з чыста акадэмічнай працай, дзе маюцца вялікія дасягненьні ў сэнсе беларусізацыі, унівэрсытэт вёў і вядзе палітасьветпрацу, як у мурох У-ту, так і сярод працоўных мас гораду і вёсак.

Пад кіраўніцтвам Выканбюро Прафсэкцый У-ту існуюць наступныя агульна-унівэрсытэцкія організацыі: ячэйка „ПН“, лектарскі калектыў, яч. „МОПР“, калектыў навуковай орг. працы, яч. „Авіяхім“, т-ва краязнаўства, т-ва дапамогі абароне, гурток прыхільнікаў радыё, гурток „бязбожнік“, „Эсперанто“, духавы і струнны аркэстары, хор, драматычны, спартыўны і шахматна-шашачны гурткі. Усе пералічаныя організацыі ахапляюць да 63 проц. студэнцтва.

Унівэрсытэт зьяўляецца культшэфам № кав. дывізыі і Аб‘ядн. школы комсастава РСЧА. Да той ці іншай вайсковай адзінкі прымацаваны факультэты. Працай шэфкамісіі кіруе асобная камісія на чале з Рэктарам БДУ, праф. Пічэта.

Яч. „ПН“ і „Лектарскі Калектыў“ вядуць шырокую працу сярод працоўных мас гораду. У мінулым годзе адзначаныя організацыі абслугоўвалі 216 лікпунктаў і далі 35 кіраўнікоў розных гурткоў.

Факультэты шэфствуюць над некалькімі Сельсаветамі Менскай акругі.

У час канікулаў студэнцтва атрымоўвае заданьні ад Выканбюро і вядзе працу сярод сялянскіх мас Беларусі. У гэтай галіне працы Выканбюро Прафсэкцый мае вопыт і шмат дасягненьняў, дзякуючы таму, што праца гэта вядзецца ад першых гадоў існаваньня Ун-ту.

У апошні час Праўленьнем Ун-ту былі скліканы прыродазнаўчая і літаратурная канфэрэнцыі, на якіх прысутнічала значная колькасьць настаўніцтва Беларусі. Канфэрэнцыя азнаёмілася з навейшымі навуковымі праблемамі і разглядзела пытаньні мэтадычнага характару. Гэтым Ун-т залажыў грунт культурнай сувязі з пралетарскай інтэлігэнцыяй Беларусі.

Такім чынам, Ун-т зьяўляецца ў сучасны момант вялікім культурным асяродкам Беларусі, які ня толькі падрыхтоўвае кваліфікаваных працаўнікў для культурна-гаспадарчага адраджэньня Сав. Беларусі, але і вядзе шырокую палітасьветную працу.

У-т з працягам часу стаў настолькі популярным, што зьбірае ў сваіх мурох ня толькі моладзь Сав. Беларусі, але прыцягвае да сябе і закардоннікаў—беларусоў, якія ўцякаючы з прыгнечанай Заходняй Беларусі ўліваюцца ў шэрагі студэнцтва нашага Унівэрсытэту.

Выканбюро БДУ. **М. Вайткевіч.**

---

# Па Случчыне ўвосень.

*Сельска-гаспадарчыя выстаўкі* амаль па ўсёй акрузе праводзяцца раённыя і праходзяць у дзень „Сьвята ўраджаю“. Толькі некаторыя раёны (Красна-Слабодзкі) перанесьлі выстаўкі на нядзелю, бо ў чацьвер (14/X) была дрэнная пагода. Але і там, дзе выстаўка адчынілася 14 кастрычніка, дрэнная пагода перашкаджала працягнуць яе на два-

тры дні. Гэта пашкодзіла выкарыстаць выстаўкі шырэй. Кожны селянін сьпешае паказаць свае экспонаты толькі камісіі, а там і да хаты.

*Выстаўка ў Слуцкім раёне.* Коняй няма. Большасьць экспонатаў з палявой гаспадаркі, потым садоўніцтва і гароду. Першае месца належыць буракам і турнэпсу. („Бурачная выстаўка", як назваў яе акруговы агроном). Гэтым расьлінам уся ўвага агрономаў. І праўда, кораньплоды зацікавілі селяніна Случчыны. У вёсцы Ячава (3 вярсты ад Слуцку) кораньплоды сее палова сялян па 250—300 кв. саж., а вёска Бранава лічыцца самай старой корняплоднай вёскай. Тут амаль кожная гаспадарка зьбірае 300—400 пуд. кораньплодаў, а то і больш (да 1000 пудоў).

Па галіне садоўніцтва на выстаўцы было даволі шмат прышчэп. Іх паказвалі сяляне-садаводы, з якіх некаторыя могуць прадаць 100—200 прышчэп. Быў асортымэнт яблык і ігруш, а сярод апошніх усім вядомая Слуцкая бэра.

Прэмій было раздана ня вельмі шмат (вышэйшыя прэміі на 10 р.), але склад іх вельмі зацікавіў сялян. Справа ў тым, што ў гэтым годзе Акрза ў першы раз закупіў на кожны раён па 10 бібліотэчак сялянскай сельска-гаспадарчай літаратуры. Пры выдачы кніжак на Слуцкай раённай выстаўцы сяляне былі больш здаволены, чым тыя, каму выдавалі ў прэмію жалезны плуг на 10 р.

*Паказальныя вучасткі*—гэтыя дасьледчыя школы мясцовых агрономаў, у гэтым годзе на Случчыне даюць лепшыя вынікі. Цяпер ужо ёсьць даволі шмат удачных і навучальных вопытаў. Тэмамі былі пераважна пасеў кораньплодаў, мінэральныя ўгнаеньні пад бульбу, кораньплоды і жыта.

Досьледы з мінэральнымі ўгнаеньнямі менш выразныя, а спроба сеяць кораньплоды апраўдвае сябе на ўсе 100 проц. Былі выпадкі, што ўраджай кораньплодаў быў нагэтулькі высокі, што агрономы пры іх вучоце складалі нават акты ў прысутнасьці панятых. Далей паказваю лічбы ўраджаяў кораньплодаў у вёсцы Быстрыца, як выпіску з акту агронома Пятровіча.

| | У каго былі пасеяны кораньплоды. | Якія кораньплоды | Ураджай у пералічэньні на дзес. |
|---|---|---|---|
| 1 | Гулейка М. . . | буракі | 3180 пуд. |
| 2 | Лебяда і Барысавец В. . . | буракі | 4410 „ |
| 3 | Школьны вучаст. | буракі | 6420 „ |
| | „ „ | турнэпс | 7680 „ |
| 4 | Юргеня Язэп . | буракі | 2400 „ |
| 5 | Федаровіч . . . | турнэпс | 2880 „ |

Так агітуюць за сябе кораньплоды ў агронома Пятровіча. Ня менш цікавяць яны сялан і ў іншых вёсках. Так, напрыклад, на с.-г. выстаўку ў Красна-слабадзкім раёне былі прывезены буракі і турнэпс вагою па 28 фун. штука. Шырокае захапленьне сялян кораньплодамі вельмі цікавае зьявішча, бо ў вырашэньні кармовага пытаньня ім належыць пераважная роля. Наогул трэба сказаць, што ў гэтым годзе ў па-

казальным вопыце быў зацікаўлены больш сам селянін. Два-тры гады назад гаспадара яшчэ больш цікавіла дармовае насеньне ці ўгнаеньне, якое прывозіў агроном для вопыта. Зараз-жа селянін больш цікавіцца вынікам досьледу. Ён разам з агрономам ставіць пытаньне расьліне і пачынае працаваць, як **дасьледчык**.

Гэту асаблівасьць у працы некаторых сялян Случчыны, як і сялян іншых акруг, трэба адзначыць. Сяляне вышукваюць розныя спосабы, каб узьняць ураджайнасьць поля, каб гаспадарку зрабіць культурнай. Пакажу некалькі прыкладаў. *Селянін Барысавец Андрэй* з хутара Благадатнае (каля Слуцку)—заўзяты наватар [1]). Зямлю ён атрымаў у 1923 г., а ўжо цяпер мае шматпольле, сее кораньплоды (моркву), мае цёплы і сьветлы хлеў, корміць па нормах кароў, мае гарод. У гэтым годзе ён прадаў 500 пудоў морквы, а было пасеяна $^3/_4$ дзес.

*Вярбіцкі Іван* (хутар Ракіні, Красна-Слабодзкага р.) ня менш цікавы селянін-дасьледчык. Апішу яго адзін досьлед. У часопісі „Плуг" № 6 Вярбіцкі прачытаў пра пажніўныя расьліны. Вось ён у пачатку ліпня скасіў канюшыну, зараз-жа зaараў поле і пасеяў лён на валакно. Вопыт удаўся. К восені (10/X) лён вырас амаль да 2 арш., як даўгунец. Гэты лён гаспадар меўся паказаць на выстаўцы (Красная Слабада) [2]).

Сусед Вярбіцкага *Казак Язэп* таксама пасеяў пажніўную расьліну, лубін пасьля жыта. Цяпер (15/X) лубін мае $^3/_4$ арш. Гаспадар хоча выкарыстаць яго пад авёс у будучым годзе.

Такім чынам, думка селяніна ня сьпіць, а разам з аграномам яна шукае новых шляхоў і новых прыёмаў палепшаньня сваёй гаспадаркі.

*Пасёлак Грушаўка* (Краснаслабодзкага р., Жываглотаўскага с.-с.). Затрымаюся на гэтым пасёлку таму, што ён малады і створаны беднатою з вёскі Садовічы. Пасёлак малады, а паглядзець і зараз ужо ёсьць што; цяпер ужо поўнае чатырохпольле—норфольк [3]). Кармушкі і цёплыя хлявы маюць 8 гаспадароў; кармленьне па нормах. Ужо заложана два сады, а праз год зьявяцца яшчэ новыя. Уся праца вядзецца ў поўнай сувязі з агрономамі. Вынікі працы зараз ёсьць. Ураджаі пасялкоўцаў у 1926 г. прыблізна такія:

| | | | |
|---|---|---|---|
| жыта . . | 80 пуд | бульба . . | 1200 пуд. |
| авёс сартовы . | 40 „ | кораньплоды . | 2500 „ [4]) |
| „ мясцовы . | 82 „ | | |
| ячмень . . | 90 „ | канюшына . | 200 „ |

Усе пасялкоўцы члены малочнай арцелі, якую яны заснавалі, але нажаль ніяк ня могуць дабіцца сабе крэдыту. Два селяніна Герман Макар і Холад Андрэй — заўзятыя сяляне-дасьледчыкі. У гэтым годзе яны ўдачна правялі досьлед з бульбай і жытам.

Такім чынам, дзякуючы шчырай працы, якая цесна зьвязана з думкай агронома, былая бедната і голь вёскі Садовічы цяпер на пасёлку Грушаўцы расьце культурна і матар'яльна [5]). Праца і навука—аружжа супроць цемры і бядоты.

**С. Т.**

---

[1]) Гаспадар атрымаў 75 руб. прэмію.

[2]) У рэдакц. час. „Плуг" прыслаў ліст селянін з Віцебшчыны С. Сялюкін, што ён пасеяў лён на валакно, як пажніўную расьліну.

[3]) 1. Жыта, 2. бульба, кораньплоды, 3. ярына, 4. канюшына.

[4]) Пасеяна па 100 кв. сажн. у кожнага гаспадара.

[5]) Селянін Герман Макар часта сам жартуе: „Раней я быў Макарка, а цяпер Макар Сямёнавіч".

# Палявая гаспадарка Папернянскай школы.

Прапагандай агрономічных мерапрыемстваў у нашай вёсцы зьяўляецца школа. Тут скарыстоўваюцца ўсе даныя дасьледчых устаноў і грамадзкай агрономіі. Працуюць тут настаўнік Гуско і настаўніца Курыян. Хаця сяляне ня раз слухалі на лекцыях агранома, які казаў як палепшыць гаспадарку, але селяніну гэтага мала. Яму патрэбен паказ. А школьны вучастак і дапамагаў гэтым сялянству.

На школьным вучастку заведзен такі васьмёхпалёвы севазварот: 1) лубін, 2) жыта, 3) бульба па гнаі, 4) ячмень з падсевам канюшыны, 5) канюшына I г., 6) канюшына II г., 7) жыта, 8) авёс.

Вясною к жыту падсеяна сэрадэля, якая к ліпню месяцу вырасла вялікая. Як відаць, пасьля ўборкі жыта можна будзе скасіць сэрадэлю на сена. На вачах усіх сялян настаўнік здымае два ўраджаі ў адно лета.

На другой частцы жыта, сеялі лубін у той час калі жыта пачынала выплываць. „Вось гэта, дык выдумка“, кажуць сяляне, „жыта сажне, а лубін заарэ на ўгнаеньне, выходзіць дзьве карысьці“. Трэцяе поле засеяна турнэпсам і бульбай.

З кармовых траў, пасеяна канюшына, выка, сэрадэля. Нашы сяляне часта гавораць, што настаўнік здымае ўраджай большы з 4 дзесяцін, чым мы з 10 дзесяцін.

Як відаць, шматпольле прыносіць вялікую карысьць.

Сенажаць для школы была прырэзана самая горшая, („на табе, божа, што мне нягожа“). Але настаўнік вясною выдраў мох бараной, згроб яго ў кучы і пасеяў калійнай солі па разьліку 12 пуд. на дзесяціну і попелу па разьліку 40 п. на дзесяціну. Сёлета трава ў яго парасла значна лепш, як на сумежным небаранаваным і ня ўгноеным вучастку. Шмат ужо якія сяляне па прыкладу школы сталі паляпшаць свае гаспадаркі, пераходзяць на шматпольле. Настаўнік ім у гэтай справе дапамагае. Гледзячы на настаўніка, сяляне пачалі сеяць выку, сэрадэлю, канюшыну і нават пасадзілі турнэпс, буракі, павялічылі пасеўную плошчу бульбы.

Пры школе ёсьць вучастак з паказальным шасьціпольным севазваротам. Ім вельмі цікавяцца сяляне. 5-га ліпня на гэтым вучастку пасьля жыта настаўнікам пасеяна выка.

Гэта яшчэ раз кажа аб тым, што за адзін год можна зьняць два ўраджаі. Трэба адзначыць, што ўся гэта праца праводзіцца вучыцелем без усякай дапамогі. Настаўніца занята больш гароднінай. Усё тут пасаджана радкамі па пляну. Часта сялянкі і сяляне заходзячы любуюцца на гуркі, капусту і розную гародніну і кажуць: „Чаму гэта ў нас яно так не расьце?“. Настаўніца часта паказвае, як трэба рабіць каб добра расло і ў сялян. Шмат сялян зьвяртаецца за парадамі па сельскай гаспадарцы да настаўніка, які тлумачыць, што і калі трэба рабіць.

Памойму добра было-б, каб усё сельскае настаўніцтва таксама навучала сялян.

Школ на Беларусі больш чым аграпунктаў і скарыстаць у гэтым напрамку іх варта.

Сяляне кажуць, што вось гэтыя вынікі і трэба высьвятляць на старонках часопісі „Плуг“.

Селян. А. Д. Бярозавік.

# Колектывы Беларусі, як форма буйнай сельскай гаспадаркі.

Узбуйненьне сялянскай сельска-гаспадарчай вытворчасьці можна праводзіць праз сельска-гаспадарчыя колектывы (колхозы), якія і зьяўляюцца ячэйкамі буйнай сельскай гаспадаркі. Сюды таксама належаць саўхозы, якіх налічваецца па Беларусі 233 з плошчаю зямлі 93.300 дзесяцін.

Колектыўныя гаспадаркі Беларусі складаюцца з камун, арцеляй і сельска-гасп. таварыстваў па грамадзкай апрацоўцы зямлі. Колектыўны с.-г. рух Беларусі пачынаецца з 1918-19 г., але па шмат якіх прычынах, матар'ялаў па характэрыстыцы ўзрастаньня колектываў за першыя гады рэвалюцыі няма. І толькі пачынаючы з 1923 году, з моманту разьвіцьця ў Беларусі с.-г. коопэрацыі, мы знаходзім матар'ялы па разьвіцьцю колектываў. З гэтага моманту колектывы характэрызуюцца наступнымі лічбамі:

| Назва колектываў. | У склад с.-г. коопэрацыі ўваходзіла на 1 студзеня. | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1923 г. | | 1924 г. | | 1925 г. | | 1926 г. | |
| | Усяго | % | Усяго | % | Усяго | % | Усяго | % |
| Камуны . . . . . . | 40 | 18 | 43 | 16 | 50 | 15 | 54 | 12 |
| Арцелі . . . . . . | 139 | 62 | 169 | 63 | 208 | 64 | 226 | 72 |
| С.-г. т-вы па грамадз. вырабу зямлі . . . . . | 45 | 20 | 58 | 21 | 70 | 21 | 62 | 16 |
| Усяго . . | 224 | 100 | 270 | 100 | 328 | 100 | 382 | 100 |

Акрамя таго, сюды не ўвайшлі 22 колхозы, якія былі зарэгістраваны зямельнымі ўстановамі, але ў сыстэму сельска-гаспадарчай коопэрацыі не ўвайшлі.

Уся зямельная плошча, занятая колхозамі, складае 47.023 дзесяц. Усе колхозы ўтварыліся на землях дз ржаўнай зямельнай маемасьці. У сярэднім на кожны колхоз прыпадае каля 116 дзес.

Даныя аб паступовасьці ў росьце колхозаў яскрава гавораць за тое, што гэта форма гаспадараваньня ў Беларусі ўзрастае і ўзрастае па лініі арцеляй і слабей па лініі камун; у кірунку т-ваў па грамадзкаму вырабу зямлі мы маем нават зьніжэньне. Перавага ў росьце арцеляй перад камунамі можа тлумачыцца тым, што арцель па форме сваёй організацыі труда зьяўляецца больш простай гаспадарчай адзінкай, як камуна; яна не парушае ў корні бытавых індывідуальных звычаяў і нахілаў тых асоб, якія ўступаюць у аб'яднаньне. Гэткае зьявішча назіраецца па ўсяму Саюзу. Але зьністажэньне ўзросту т-ваў па грамадзкаму вырабу зямлі трудна паддаецца тлумачэньню; здавалася-б, што гэтая форма павінна даць вялікі ўзрост перад арцельлю і камунай, як самая простая форма. Але гэта пытаньне Наркамзему Беларусі належыць яшчэ вывучыць.

Колектыўныя гаспадаркі асядалі ў большай сваёй частцы ў цэнтрах быўшых двароў; у такіх выпадках яны атрымоўвалі ад дзяржавы капіталу будынках, мэліорацыі, а часам і ў відзе жывога і мёртвага інвэнтару; гэта група колектыўных гаспадарак значна акрэпла. Дру-

гая-ж частка, якая асела на абрэзках саўхозаў і на землях з-пад ляснога фонду, жыве да гэтага часу бедна. Гэта палажэньне ў поўнай меры сьцвярдзілася і абсьледаваньнем 65 колхозаў Магілеўшчыны ў гэтым годзе. Насельнасьць, аб'яднаная ў колектывы, пераважна бядняцка-батрацкая і сялянства, якое пачало гаспадарыць ва ўмовах амаль поўнай бядоты. Наступныя лічбы даволі яскрава характэрызуюць соцыяльны склад колхозаў.

*Увайшло ў колхозы:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сялян з зямлёй . . | 3.774 | ядакі або | 21% |
| „ беззямельных | 5.692 | „ „ | 31,5% |
| Батракоў . . . . | 5.491 | „ „ | 30,5% |
| Рабочых . . . . | 1.715 | „ „ | 9,5% |
| Служачых . . . . | 858 | „ „ | 4,5% |
| Іншых . . . . . | 616 | „ „ | 3% |
| УСЯГО . | 18.064 | „ „ | 100% |

Незалежна ад гэтага колхозы ў сваёй масе маюць ужо дасягненьні.

Ураджайнасьць галоўнейшых расьлін у колхозах вышэй, чым у сялянскіх гаспадарках (паказваю даныя па 8 акругах за 1925 г.).

| | *Ураджай у колхозах.* | *У сялян.* |
|---|---|---|
| Азіміна . . | 52 п. | 39 п. |
| Ярына . . | 43 п. | 34 п. |
| Бульба . . | 590 п. | 470 п. |
| Канюшына . | 135 п. | 110 п. |
| Лён-насеньне | 18 п. | 19 п. |
| „ валакно | 22 п. | 24 п. |

Ня менш паказальным момантам гаспадарчага росту колхозаў зьяўляецца і параўнаньне расьлін у %% у колхозах і сялянскіх гаспадарках; так, пасеўная плошча ў 1925 г. была занята галоўнейшымі расьлінамі ў %%

| | *Было пасеяна ў колхозах.* | *У сялян.* |
|---|---|---|
| Азіміна . . | 34,5% | 40.75% |
| Ярына зярновая | 32,4 | 38,93 |
| Бульба з карань-плодамі . . | 12,3 | 10,9 |
| Сеяныя травы . | 17,0 | 6,61 |

З табліцы відаць зьніжэньне % зярновых расьлін у колхозах у параўнаньні з сялянскімі гаспадаркамі і адначасовы рост асыпных расьлін і сеяных траў, якія павышаюць таварнасьць гаспадаркі і даюць магчымасьць поўнага скарыстаньня рабочых рук.

Разам з гэтым колхозы пачынаюць адыгрываць і агрыкультурную ролю. Так, у колхозах організавана 56 пракатных пунктаў па ачыстцы зярна і 152 злучных пункты для абслугоўваньня патрэб сялянства.

А ўсё-ж такі да апошняга часу вялікай перашкодай у разьвіцьці колхозаў зьяўляецца: 1) іх неземляупарадкаванасьць, 2) недахоп асноўных і абаротных капіталаў і 3) недастача агрономічнае дапамогі.

Неземляўпарадкаванасьць не стварае моцы гаспадаркі і не дае магчымасьці правільна організаваць зямельную плошчу.

Рабочай і прадукцыйнай жывёлай колхозы поўнасьцю не забясьпечаны. Калі параўнаць забясьпечанасьць колхозаў рабочай і прадукцыйнай жывёлай з забясьпечанасьцю сялянскіх гаспадарак, то будзем мець наступны малюнак:

1) У колхозах на 1 каня прыпадае 7,7 дзес. пахаці, у сялянскіх жа гаспадарках 4,1 дзес.

2) На галаву буйной жывёлы ў колхозах прыпадае 4,75 дзес. угноенай зямлі, у сялянскіх-жа гаспадарках 2,9 дзес.

3) Сьвіней 28 штук прыпадае на 100 едакоў у колхозах і 52 штукі на 100 едакоў у сялян.

4) Авечак 51 на 100 едакоў у колхозах супроць 80 штук у сялян. Таксама адчуваецца недахоп і ў мёртвым інвэнтару.

Сродкі колхозам прадстаўляюцца з доўгатэрміновых і кароткатэрміновых крэдытаў. Акрамя дапамогі з боку дзяржавы, колхозы самі павінны праявіць самадзейнасьць; ніякая дапамога з боку ня можа даць жаданага посьпеху, да таго часу, пакуль колхозы самі ня стануць на шлях гаспадарча-організацыйнага ўзмацненьня: *падняцьця вытворчасьці працы, палепшаньня ўзаёмадносін з ваколічным насельніцтвам, зьнішчэньне бягучасьці свайго складу і г. д.*

Праўда, колектыўная форма гаспадараваньня ёсьць зусім новая форма і яе організацыя часта зусім незразумела асобам, якія ўваходзяць у аб'яднаньне. Колектывы павінны мець поўнае абслугоўваньне, як інструктарскімі, так і агрономічнымі працаўнікамі. Да апошняга часу колектывы абслугоўваліся слаба, што ў шэрагу акруг прывяло к вялікаму % распада (напрыкл. у Магілеўшчыне, з 65 аб'яднаньняў распалася 25).

Але пры зьнішчэньні ўсіх недахопаў колектываў, з узмацненьнем іх асноўных і абаротных капіталаў і з большым агрономічным абслугоўваньнем колектыўныя гаспадаркі апраўдаюць сваю мэту; яны паказваюць сялянству выгаднасьць буйной сельска-гаспадарчай вытворчасьці.

**І. Стралкоў.**

---

# Пасадка лесу селянінам І. Д. Андросавым на сваім хутары.

На хутары, сярод буйных бугрыстых пяскоў у в. Слабодцы, Кароўчынскага с.-с. Лупалаўскага раёну, Магілеўскае акругі, жыве гр. І. Д. Андросаў. Пра гэтага Андросава я і хачу расказаць.

Пачаў гаспадарыць Андросаў на 4-х дзес. беднае зямлі, якая амаль не аплачвала яго працы. Пакуль сям'я была невялікая, жыць як небудзь можна было, а далей з павялічэньнем сям'і жыцьцё стала горшае. „Гэтак з торбаю скора пойдзеш“ думаў Андросаў.

Пачалася вайна і яго забралі ў войска. Засталася гаспадарыць жонка з малымі дзецьмі. Пайшло цяжкае жыцьцё; усё, што было наладжана, хутка прышло ў заняпад.

І. Андросаў з першых дзён вайны папаў у няволю і там яму спачатку ня соладка жылося, але ён ужо ўмеў вясьці барацьбу з жыцьцём. Знаходзячыся ў няволі, ён спачатку прыглядаўся да гаспадарак

немцаў-сялян і многае ад іх пераняў. Паўстала думка наладзіць сваю гаспадарку, калі вернецца дамоў, хоць-бы на дзясятую частку таго, што ён бачыў у немцаў.

Пасьля першых дзён рэволюцыі, калі Андросаў вярнуўся на бацькаўшчыну, яго гаспадарка была зусім зруйнавана. Зноў ён пачаў клапаціцца і старацца, каб палепшыць сваю гаспадарку. Доўга стараўся падняць даходнасьць пескавых вучасткаў свайго хутару, але толку з таго было мала. Тады Андросаў рашыў, па прыкладу немцаў, засадзіць свае пяскі сасновым лесам. „Гэта нішто, што я не дачакаюся лесу“, казаў ён: „няхай дзеці і ўнукі мае атрымаюць ураджай і ня знаюць торбы, няхай жывуць, як немцы“.

Такім чынам, пасадка лесу стала мэтаю яго жыцьця, у ёй Андросаў бачыў аграмадную карысьць і для сябе, і для дзяржавы.

Мінулым летам я вёў па заданьню Наркамзема БССР абсьледаваньне глебы Аршанскай акругі і быў блізка хутара Андросава; там я і пазнаёміўся з ім. Папрасіў Андросаў паглядзець яго пяскі, расказаў свае думкі і папрасіў дапамогі. Мяне зацікавіла гэта, бо я першы раз сустрэў такога селяніна, які надае лесу вялікае значэньне, бачыць у ім вялікую карысьць. Я, як лесавод, абяцаў яму дапамагчы ў пасеве лесу.

Увосень і зімою ён хадзіў у Горкі, Чавускі лес, Магілеў, і шукаў пасеўнага матар‘ялу. Шмат было няўдач для яго і здавалася, што гэтыя няўдачы павінны былі-б спыніць справу, але, наадварот, гэта яго яшчэ больш падахвочвала пасеяць лес.

„Памру, а лес пасею... аддам апошні грош, а лес будзе“—казаў ён мне ня раз. Але Андросаў не памёр, хоць і страціў апошні грош. У апошнія дні зімы забраў сваіх дзяцей у лес і давай зьбіраць шышкі, якія потым памяняў на насеньне.

Вясною па гразкай дарозе, прышоў ён да мяне, радасьць і задаволенасьць сьвяціліся ў яго вачох. „Я зрабіў усё, што толькі мог, цяпер ваша чарга дапамагчы ў маёй справе, дайце карысьць краю“ [1]).

У самы разьліў рэчак прыехаў за мной Андросаў і мы паехалі да яго.

На наступны дзень уся сям‘я прынялася за працу і ў працягу 3-х дзён $3^1/_2$ дзесяціны бедных пяскоў былі засеяны сасновым насеньнем.

Вось ён, Андросаў які! Ён давёў не на словах, а на справе свае думкі аб будаўніцтве новага жыцьця.

Бачачы карысьць у задуманай справе Андросава, як для сябе, так і для дзяржавы, пасеялі сасну ў сябе на хутары і старшыня Караўчынскага с.-с., С. Д. Лугавы $^1/_2$ дзес. і сусед па хутары Андросава І. О. Малюкоў—1 дзес.

Абуджаецца наш селянін-беларус і адважна бярэцца за будаўніцтва новага культурнага жыцьця.

Пажадаем нашым „піонэрам“—Андросаву, Лугавому і Малюкову посьпеху. Няхай іх добры, навучальны і пакуль што адзіны, прыклад ў Беларусі (вядомы мне) пойдзе на карысьць усім сялянам ня толькі Беларусі, але і сялянам усяго Саюзу.

Лесавод **В. Пашын.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

---

[1]) Гэтыя словы сказаны самім Андросавым (В. П.).

# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Што можа даць морква.

У 1925 г. я пасеяў па асеньняму поўнаму ўгнаеньню 4 кв. сажні сталовай морквы (сорта Натская доўгаватая) і атрымаў 2 пуд. 22 ф., што дае на дзесяціну 1.530 пуд.

Сёлета я пасеяў морквы ўжо 50 кв. сажн., хоць на гэты раз я меркаваў пасеяць не сталовай, а кармовай. Вышла гэта таму, што ў Кармянскім с.-г. крэдытовым таварыстве далі мне памылкова замест кармовай сталовую моркву. Сеяў я яе, як сталовую, і толькі праз месяц даведаўся, што мая морква не кармовая, бо кармовая павінна быць—жоўтай, ці белай, а гэта морква была чырвоная. Хоць і ня тое пасеяў, што хацеў, але, думаю, буду даглядаць так, як трэба.

Пасеяў на супескавой глебе, угноенай на палову вясной, на палову ўвосень, на градках шырынёю ад 1 да $1^1/_2$ саж. і даўжынёю ад 10 да 12 саж.; пасеяў радкамі, на 4 вярш., і расьліна ад расьліны на 2-3 і 4 вярш.

Цяпер я яе ўжо выкапаў. Усяго атрымаў 33 п. 5 ф., што на дзесяціну дае 1.590 пуд., а ўраджай мінулага году быў 1.530 пуд. Знача, сярэдні ўраджай за 2 гады будзе 1.560 пуд. Сёлета я завёз у мяст. Карму 10 пуд. морквы і прадаў па 60 кап. пуд., знача ўраджай з дзесяціны дасьць $1.560 \times 60 = 936$ руб. Гэту суму грошай можна атрымаць, засеяўшы 1 дзес. сталовай морквы.

Цяпер цана ў нас на сена 50 кап. за пуд. Выходзіць, што за гэтыя грошы можна купіць 1.872 пуд. добрага сена, або 624 пуды жыта, лічучы па 1 р. 50 кап. пуд жыта. Такая цана ў нас на яго цяпер.

Апрача таго, на такой-жа глебе ў мяне было пасеяна сталовай морквы яшчэ 15 кв. сажн. па сьвежаму ўгнаеньню. Ураджай быў 18 фун. з 1 квадр. сажн, або 1.080 пуд. на дзес., а ў пераводзе на грошы $1.080 \times 60 = 648$ руб. Глеба адна, колькасьць і якасьць угнаеньня аднолькавыя, толькі ўнесена яно ў розны час, а ўраджай зьменшыўся на 480 пуд. ($1.560 - 1.080 = 480$[1]).

Вось я апісаў тую карысьць, якую дае морква і гэта я бяру ня з неба, а з уласнае практыкі. За лічбы я бяру на сябе адказнасьць перад сялянамі-чытачамі. Але я хачу яшчэ раз апісаць, як трэба апрацаваць глебу, угнойваць яе і даглядаць расьліны. Гной па разьліку 2.400 пуд. на дзес. трэба пакласьці і ўзараць магчыма раней увосень. Араць трэба на 4 і больш вярш. глыбінёю і з такім разьлікам, каб падглебы ўзяць ня больш, як $^1/_4$ вяршк., а лепш і зусім не чапаць падглебы. Вясною, як толькі можна будзе выехаць на поле, трэба паскародзіць, узараць і зараз-жа зноў паскародзіць. Праз тыдзень узараць другі раз, паскародзіць і паганяць градкі.

Перабіўшы градкі (рысы) граблямі, высеяць насеньне. Тыдні праз два морква ўзойдзе, а праз 4-5 тыдняў яна ўжо будзе мець два-тры лісьцікі. К гэтаму часу зьявяцца ўжо і сарнякі, якія трэба выпалаць, а моркву прарваць. Полку і прарэджваньне трэба рабіць разы 2-3 за лета. Пры апошнім прарэджваньні неабходна ўспульхніць зямлю паміж

---

[1]) Вопыт пасеву па сьвежаму ўгнаеньню аднаго году. (Я. С.).

радкамі матыкай і так пакінуць да восені. Можа стацца, што асобныя расьліны сарнін пачнуць зноў зьяўляцца. Іх таксама прыдзецца выпалваць.

Трэба адзначыць, што гэта морква ў першай палове лета мае дрэнны выгляд і ў гаспадара можа прапасьці ахвота даглядаць яе. Баяцца гэтата ня трэба. У жніўні, а яшчэ больш у верасьні гаспадар ужо ўбачыць, што морква заплаціць яму за працу вельмі добра[1]).

Я гаспадар малады, і лепшых ураджаяў морквы ў сваей гаспадарцы ня меў, але лічу, што і гэта ня дрэнна. Аб гэтым-жа сьведчаць і сума грошай і лічбы хлеба, якія можна атрымаць за моркву.

На гэта мне чытачы скажуць: „добра як ёсьць угнаеньне, а што-ж зрабіць, калі яго няма?“ На гэта я адкажу, што і з гэтага ёсьць выйсьце. Папершае, можна рабіць кампост, на які морква вельмі чула, а падругое, давайце мы зробім падлік. Напрыклад: мы купілі гною (цэны я бяру, якія існуюць у нас). Адзін пуд гною каштуе 4 кап., а яго трэба на дзесяціну 2.400 пуд. Гэта складае 96 руб. (2.400 × 4). Дастаўка ў нас з мястэчка за 7 вёр. абойдзецца столькі-ж 96 + 96 = 192 р., а прадаўшы 1.560 п. морквы будзем мець 936 руб.; вылічыўшы з гэтага 192 руб. кошт гною, атрымаем чыстага прыбытку 744 руб. Усе-ж сума такая, што варта працы.

І таму я раю сеяць моркву, бо з яе ня толькі тая карысьць, якую я апісаў вышэй, а яшчэ і тая, што яе добра даваць дойным каровам, цялятам, жарабятам, жарэбным кабылам. Трэба толькі даваць яе сырою, а ня варанай.

Селянін **Я. Судак.**

---

# Вопыт з бульбаю.

Звычайна ў нас садзяць бульбу рэзанымі бульбінамі сярэдняй велічыні з курынае яйцо; рэжуць папалам. Гэта найбольш пашыраны спосаб садзіць бульбу ў нашых сялян, але садзяць яшчэ і дробнымі цэльнымі бульбінамі і чакаюць добрых ураджаяў. Праўда, ня можна сказаць, што ад дробных бульбін ня вырастае вялікае бульбы, але ўраджай з дзесяціны будзе меншы і шмат дробнае бульбы. Другая бульба пры пасадцы цэлымі бульбінамі. Тут ураджаі бываюць добрыя і дробнай бульбы мала. Але-ж гэта пасадка патрабуе больш насеньня. Пасадку я рабіў не на дно разоры, а з боку ў мяккую ральлю, як раіў „Плуг“. Мой вопыт паказаў наступнае: было ў мяне закладзена 11 дзялянак па 6 сажняў кожная. Усе дзялянкі я выкапаў 20 верасьня. Вось якія былі дзялянкі: 1—рэзаная бульба бяз гною, 2—рэзаная па гнаі, 3—цэлая бяз гною, 4—цэлая па гнаі, які вазіўся ў дзень высадкі з хлява (1200 пуд. на дзес.), 5—торф з балота, які ня быў у хляве, а толькі паляжаў у кучы з гноем, 6—перапрэўшы гной (1000 пуд. на дзесяціну), 7—попел (80 пуд. на дзес.), 8—лубін не завораны на зіму, 9—лубін завораны на зіму, 10—лубін не завораны на зіму і 800 пуд. гною, 11—лубін завораны на зіму разам з 800 пуд. гною. Зялёнай масы лубіну было 600 пуд. на дзес.; яна нарасла пасьля прыборкі жыта, калі пасеялі пажніўны лубін. Пачынаючы з 4 дзял. і да канца для насеньня былі цэлыя бульбіны.

---

[1]) Тут аўтар паказвае малюнак морквы па папярэчнаму адцінку: таўшчыня караньплоду 9½ см., а даўжыня 24 см. (Рэд.).

Ураджаі па дзялянках паказаны ў табліцы:

| Дзялянка. | Усёй бульбы. | Буйной. | Дробнай. | Розьніца ўраджаю. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Усёй. | Буйной. |
| 1 | 1200 | 795 | 405 | — | — |
| 2 | 1455 | 990 | 465 | +255 | 195 |
| 3 | 1425 | 1035 | 390 | +225 | 240 |
| 4 | 1770 | 1395 | 375 | +570 | 600 |
| 5 | 1575 | $1207^1/_2$ | $367^1/_2$ | +375 | $412^1/_2$ |
| 6 | 2205 | 1920 | 285 | +1005 | 1125 |
| 7 | 1725 | 1395 | 330 | +525 | 600 |
| 8 | 1705 | 1390 | 315 | +505 | 595 |
| 9 | 1695 | 1350 | 345 | +495 | 555 |
| 10 | 2190 | 1890 | 300 | +990 | 1095 |
| 11 | 2265 | 1935 | 330 | +1065 | 1140 |

Самы малы ўраджай быў з няўгноенай дзялянкі і саджанай рэзанаю бульбаю, дробнай таксама ў рэзанай было найбольш. Гэта паказвае, што рэзанаю бульбаю хоць крыху і зберажэш насеньня, але згубіш ураджай ўвосені. А яшчэ больш дробнай было з рэзанай і пасаджанай на ўгноенай гноем дзялянцы. Амаль што трэцьця частка дробнае, а $^2/_3$ буйнае. Самы большы ўраджай, гэта з перапрэўшага гною і лубіну, які заворany на зіму (дзялянка 11). Там дробнае было ўсяго $^1/_6$ частка, а буйнае $^5/_6$ частак.

Насеньня пашло рэзанай па разьліку на 1 дзес. 100 пуд., а ня рэзанай 140 пуд. Розьніца ў 40 пудох, а калі паглядзець дзялянкі 2 і 4, дык відаць, што схадней садзіць цэлую бульбу сярэдняй велічыні з курынае яйцо. Дзялянка 2-я дала буйнай 990, а 4—1395 пуд.; тут ёсьць прыбаўка 405 пудоў буйнае бульбы; дробнае 2-я дала 465 пуд., а 4-я—375 пуд. Тут з 4-й дзялянкі на 90 пуд. дробнае менш. Гэтыя дзьве дзялянкі роўна ўгнойваліся і садзіліся, а розьніца ўраджаю вялікая. Гной клаўся толькі што вывезены, не перапрэўшы. Самы большы ўраджай быў на дзялянцы з перапрэўшым гноем (лубін і перапрэўшы гной). Як зрабіць, каб гной перапрэў, я пісаў у „Плузе“ (№ 2, стар. 17 за 26 г.). Попел даў такі самы ўраджай, як і неперапрэўшы гной з хлява. Торф быў не падрыхтаваны з мохавога балота, так што на ім бульба значных посьпехаў не дала. На лета я ўжо палажыў той торф, які паляжаў у хляве. Таксама я буду садзіць бульбу для вопытаў і садзіць большую частку на прэлым гнаі, бо бульба вышла з гэтай дзялянкі чыстая і буйная (вялікая). Сорт бульбы высяваўся позны піваварны ружовы, які не гніе і добра расьце на нашай пескавой глебе. Сёлета на мой вопыт не спрыяла пагода: з вясны халады, а ўлетку сухмені, але і так ураджай сабраў я добры.

Другія вопыты мае не ўдаліся—сэрадэля згарэла на сонцы, таксама і гарох.[1]) Сел. А. Карнейчык.

(Хут. Сарачынава, Пухавіцкі раён).

# Што трэба рабіць, каб атрымаць вялікі ўраджай азімай пшаніцы.

Сяляне нашага Смалявіцкага раёну лічылі азімую пшаніцу неўрадлівай, і амаль усе пачалі яе зводзіць, а хто і пасее, дык атрымае ўраджай 20-30 пуд. з дзес. Ураджай-жа ў 40 пуд. з дзес. лічыцца добрым.

У 1923 г. я пасеяў 3 пуды азімай пшаніцы. Глеба была падрыхтавана звычайна ў позным папару. Ураджай пшаніцы быў 10 пуд., або 30 пуд. на дзесяціну.

Гэткі малы ўраджай прымусіў мяне зрабіць некалькі доследаў над вырабам глебы пад азімую пшаніцу. У 1924 г. я пасеяў ужо пшаніцу на глебе, падрыхтаванай інакш. Папар быў узараны з восені




1923 г., вясною баранаваўся, у чэрвені (VI) вывез 1200 пуд. гною па разьліку на дзесяціну, і заараў параконным плугам; праз тыдзень поле пабаранаваў, а ў першай палавіне жніўня поле ўзьмяшаў пад пасеў пшаніцы. Пасеў зрабіў ручны ў канцы жніўня (5 пуд. на ½ дзес.).

Па ўсходах відаць было, што пшаніца будзе добрая. Вясной рунь заняпала, бо глеба заскарупела і не прапушчала паветра. Я пабаранаваў у адзін сьлед і пшаніца папраўілася. Увосень-жа к вялікаму майму зьдзіўленьню я атрымаў ураджай 40 пуд., на дзес.

Здаецца ўжо было-б даволі і гэтага, але я надумаўся павялічыць ураджай яшчэ сартаваньнем насеньня. Гэты вопыт з сартаваным насеньнем азімай пшаніцы я залажыў у 1925 г. на вучастку ў ½ дзес. Вучастак, які падрыхтаваў па спосабу 1924 г., я разьдзяліў на 2 роўныя часткі. На аднэй дзялянцы пасеяў 2½ п. пшаніцы 1-га сорту (буйнейшай), а на другой 2½ п. II-га сорту (сярэдняй буйнасьці).

Вясною абедзьве дзялянкі пабаранаваў у 2 сьляды. Пшаніца 1-га сорту ўвесь час ішла добра. Прышла восень і што-ж мы бачым? З першай дзялянкі я атрымаў 32 п., або 128 п. на дзес., а з другой 22 пуды, або 88 п. на дзес. (Гл. малюнак).

[1]) Рэдакцыя просіць гэты вопыт з бульбаю працягнуць і ў 1927 г., каб праверыць лічбы 1926 г., бо ўраджай некаторых дзялянак (11—2265 п.) заслугоўвае пільнай ўвагі. Для торфа можна дадаць новыя дзялянкі. (РЭД.).

З майго трохгадовага досьледу відаць, што азімая пшаніца можа добра радзіць і ў нас, толькі глеба павінна быць падрыхтавана па майму спосабу 1925 г., а сеяць трэба ачышчаным і буйным насеньнем, а вясною паскарадзіць усходы. Сяляне бачылі мой вопыт і цяпер згодны з тым, што азімая пшаніца ў нас можа добра расьці. Шмат хто пачаў зноў яе сеяць.*)

(Вёска Заказінец, Смалявіцкага раёну). Селянін-дасьледчык **М. Пятроўскі.**

# Яшчэ адно дасягненьне.

*(Гарадзецкі раён, Бабруйскай акр.).*

Да гэтага часу ў нас у раёне абозы па ачыстцы зярна былі ў распараджэньні агропунктаў, якія ў час вясеньняй або асеньняй пасеўкампаніі намячалі сабе пункты працы пры сельсаветах. Такая праца не давала добрых вынікаў, бо даводзілася шмат разоў пісаць у сельсаветы, каб яны прыслалі падводы для адпраўкі абоза на месца; большасьць сельсаветаў як-бы мала зацікаўлена ў падняцьці сельскай гаспадаркі і адразу просьбу не выконвалі. Машыны стаялі без скарыстаньня, ня прыносячы карысьці ні дзяржаве, ні насельніцтву. Апрача гэтага, насельніцтва яшчэ расцягвала часткі машыны: балты, гайкі, пасы і інш., (у в. Галавачах). У вёсцы Сьвятое ў час перавозкі машыны на агропункт згублены падшыпнікі. Пры такіх абставінах насельніцтва карысьці ня мела. Калі які-небудзь селянін і жадаў ачысьціць зярно, то ён адзін на сваей клячы ня мог прывесьці машыну, і сеяў неачышчаным зярном падзедаўскі. Цяпер-жа праведзена рэарганізацыя абозу і перадача яго Раённаму ККОВ з тым, каб пры кожным сел.-савеце было організавана машыннае т-ва, дзе членамі гэтых таварystваў зьяўляецца сельскі ККОВ, які злучае свае машыны з атрыманымі. Гэты абоз знаходзіцца ў асяродку с/с. і абслугоўвае толькі даны раён. Кожны грамадзянін можа быць членам гэтага т-ва і карыстацца машынамі.

Раённы ККОВ і сельскі ККОВ разам з агрономам і інш. працаўнікамі РВК павінны прымаць актыўны ўдзел у організацыі машынных т-ваў. Тады праца пойдзе шпарчэй і мы будзем мець ачышчанага зярна не 25 т., а больш гэтага на 100 проц. Разам з гэтым будзе паляпшацца наша сельская гаспадарка і павялічвацца ўраджай палёў.

Раённым с.-г. саветам разам з сельскімі ККОВ трэба організацыю машынных таварystваў правесьці ў жыцьцё і знайсьці дзеля гэтага памяшчэньне, якое-б было месцам абслугоўваньня ўсяго сельсавету.

(м. Гарадзец, Бабруйскай акр.). **В. А. Паўлоўскі.**

# Досьлед з капустай.

*(Вільнчанская школа сялянскай моладзі, Койданаўскага раёну, Меншчына).*

Вучастак, на якім была пасаджана капуста, быў гародам ранейшага саўхозу. Глеба на ім вельмі запушчаная з сарнякамі, але плошча роўная адным бокам упіраецца ў альховы зарасьнік. Апрацоўка глебы— ворка плугам (Сакка) на 5 вяршкоў глыбіні і баранаваньне баронамі зіг-заг і драпакамі. Гэта ўсё, што рабілася вясною.

*) Правільнасьць дасылаемага артыкулу аб азімай пшаніцы з боку колькасьці ўраджаю, апрацоўкі глебы і г. д. з свайго боку сьведчу. Агроном Карачун.

**Угнаеньне**. Перад пасадкай капусты быў паложан гной ($1^1/_2$ пуд. на кв. саж.) у большасьці сьвінны. Заараўшы гной была пасаджана капуста ў пачатку чэрвеня. Поле было разьмеркавана метчыкам, каб адлегласьць паміж калівамі капусты была на 1 арш. Пасьля былі пабіты дзіркі калом у шахматным парадку, у дзіркі налівалі поўна вады (палучаліся ямкі з вадою шырынёю $2^1/^2$ вяршкі і глыбінёю 3 вяршкі і па форме кала, якім прабівалі іх). Далей рабіўся раствор з кароўяга калу і гліны (калу $^1/_3$) і разьмешваўся вадой. Пасьля бралася каліва расады, карэнчык абмачваўся ў гэты раствор і яго сажалі ў ямку, а зьверху злёгка прысыпалі зямлёю. Праз дзень капусту агледзілі. Выявілася, што расада ўся прынялася. У працягу росту яна 3 разы палолася і 2 разы асыпалася асыпнікамі. На вучастку расьлі 2 сарты капусты браўншвэйская і слава. Абодвы сарты мала розьніліся ў росьце. Калі паглядзець на ўраджай гэтага вучастку і на ўраджай сялянскіх вучасткаў, якія мяжуюць з ім, дык відаць такая розьніца: на нашым вучастку капуста мае 20-30 фунтаў адна галоўка, а на сялянскім 4-5 фунтаў. І гэта ўсё залежыць ад пасадкі і апрацоўкі глебы.

(Вучань школы) **Мікола Васілец**.

# Як пасеяў я прысланую „Плугам“ пшаніцу*).

Атрымаў я пшаніцу 3-га верасьня ў колькасьці 100 гр. Высеяў так, як пісалася ў паперцы: зрабіў 8 радкоў на дзялянцы 5 мэтр. удоўжкі і ўшыркі $1^1/_2$ мэтр. Акрамя яе я ўзяў мясцовага сорту таксама 100 гр. і 100 гр. жыта і пасеяў такую самую плошчу, як і высокалітоўкі. Налета я буду зьлічаць ураджай, з якой дзялянкі і колькі сабраў і што лепш у нас сеяць—пшаніцу ці жыта. Угнаеньня клаў 1.200 пуд. на дзесяціну. Таксама адвяду вясною дзялянку для звычайнага пасеву. Увосень я залажыў вопыт на занятым папары з гноем (на дзесяціну 1.200 пуд.), а на 2-й дзялянцы з падсевам супэрфосфату па разьліку 8 пуд. на 1 дзес. пры тэй самай колькасьці гною. Аб выніках напішу налета ўвосень.

**Ан. Карнейчык**.

(Сарачынава, Меншчына).

*) Усім сялянам—дасьледчыкам рэдакцыя „Плуга“ у пачатку верасьня г.г. выслала па 100 грам. пшаніцы сорту „высокалітоўская“ для вопыту (насеньне Бел. Агростанцыі). З вясны рэдакцыя пачне карыстацца гэтым мэтодам больш шырока. Гэта яшчэ больш узмацніць сувязь часопісі з чытачамі.

*эдакцыя).*

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Аб тарфяным угнаеньні поля.

Кожнаму вядома, што наша поле дае добры ўраджай тады, калі маецца ў гаспадарцы даволі ўгнаеньня ад жывёлы, альбо лёгка дастаць мінэральнае ўгнаеньне; але апошняе яшчэ прывозіцца з зарубежных краін і ня зусім даступна нашаму сялянству. Застаецца ўгнаеньне ад жывёлы, але і тут ёсьць перашкода, адсутнасьць падсьцілкі.

Трэба пашукаць новых матар'ялаў, якія-б зьмянілі салому і далі-б прыгоднае ўгнаеньне дзеля нашых палёў.

Адзін з такіх матар'ялаў можна раіць торф. Да гэтага часу можна было бачыць, што торф ня меў ніякага ўжываньня ў вясковай гаспадарцы.

Цяпер застаецца вырашыць, якім чынам мы павінны скарыстоўваць гэты торф дзеля атрыманьня добрага ўгнаеньня.

Спасылаюся тут на досьлед, які меў месца ў маёй гаспадарцы.

Лепшай парой дзеля загатоўкі торфу зьяўляецца восень. Пасьля палявых прац, калі ў селяніна маецца вольная часіна, трэба пашукаць на тарфяным балоце месца, куды можна пад'ехаць з канём зімою. Далей прыступаюць да копкі торфу. Яго кладуць на гаспадарскія драбіны і звозяць на сухое месца. Там складваюць яго на зямлі ў невялікія кучы, але не болей $1^1/_2$ кубічных аршыны. У кучах торф зімуе на месцы. За зіму ўся тая вільгаць, якая была ў торфе пры яго здабычы, вымерзае; пры гэтым і ўсе кіслоты, якія былі ў ім і якія не патрэбны глебе, як шкодныя, выветрываюцца. Вясною торф пачынаюць вазіць у хлявы. Тут патрэбна помніць, калі ў гаспадарцы не маецца зусім саломы, то перад скарыстаньнем на подсьціл загатованага торфу, яго трэба прасушыць на сонцы і высьцілаць у хляве рады ня болей па два вяршкі таўшчыні.

Але лепей яго скарыстоўваць разам з саломаю. Насьцілаецца ў хляве рад саломы, а потым насьцілаецца ўжо на саломе рад торфу на вяршкі тры. На гэтую падсцілку пушчаецца статак, які цераз некалькі дзён зьмесіць насьціл і яго складаюць у кучы. Калі ў некаторых гаспадарках не магчыма выкідаць угнаеньне з хлявоў на двор, дык можна астаўляць яго ў хляве.

Увосень прыгатаванае ўгнаеньне вывозяць на поле пад жыта, у сярэднім па 2.400 пудоў на дзесяціну.

Якую-ж карысьць мы мелі ад угнаеньня поля торфам? Аб гэтым гавораць лічбы.

У мінулую восень пад жыта на супесшчанай глебе, было вывезена ў сярэднім 2.400 пудоў гэтага ўгнаеньня. У гэтым годзе *з аднэй дзесяціны без угнаеньня мы атрымалі 41 пуд жыта і 129 пудоў са-*

*ломы, з тарфяным угнаеньнем мелі 74 пуды жыта і 211 пудоў саломы.* (Лічбы ўзяты з вучасткаў, якія былі адведзены пад досьлед). Як відаць, карысьць значная; але яе можна мець тады, калі будзеш памятаць аб добрым выветрываньні торфу—зімою на марозе, а вясною на сонцы.

**С. Комлік.**

## Якую я маю выгаду ад тарфянай падсьцілкі.

Пры нястачы саломеннай падсьцілкі для скаціны надта добра карыстацца торфам на падсьцілку. Тут непатрэбна затрата грошай, а карысьць вялікая, бо пры нястачы падсьцілкі гаспадарка нясе ўбытак.

Тарфянаю падсьцілкаю можа запасьціся кожны, хто не пашкадуе працы. У 1925 г. я ня здолеў накапаць торфу летам, бо на балота ня можна было ўзьехаць. Прышлося чакаць зімы. Як толькі выпаў сьнег і замерзла зямля, я ў санях паехаў на балота, зьняў дзёран і ўбачыў, што торф не замёрз. Тады я пачаў яго рэзаць і вазіць. За 2 дні прывёз на двор 33 вазы і на поле для кампосту 20 вазоў, бо ў санях надта добра і зручна вазіць. Прышла цяжкая вясна 1926 г. Многія гаспадары кармілі скаціну саломаю з страхі, а пра падсьцілку і думаць ня прыходзілася. Мой торф, які я вазіў марозам, надта добра перамёрз і стаў мяккі, як пух. Як толькі прыгрэла сонца, ён пачаў прасыхаць і ўжо к канцу сакавіка я меў падсьцілку з торфу. Да 15 траўня я перасушыў усе 33 вазы. Як толькі прасохне торф зьверху, я зграбаю яго на бок у кучу і так далей. У траўні я вывез гной і адразу паслаў у хляве на вярш. чатыры торфу. За кароткі час разышліся ўсе мае 33 вазы. Далей прышлося карыстацца тым, з якога я думаў рабіць кампост.

Раю свой вопыт усім, хто думае пратрымаць лішнюю скаціну. Торфу ў нас многа, а *подсьціл—справа сваіх рук.*

(Калодзішкі, Сьмілавіцкага раёну). Селянін **К. Запольскі.**

## Асеньняя апрацоўка гароду.

Пасьля прыборкі гародніны ў нас звычайна пакідаюць гароды з закінутымі затоптанымі градамі і моцна ўтоптанымі разорамі, заросшымі сорнымі травамі, качарэжкамі капусты, з раскіданым бацьвіньнем, загніўшай гароднінай і інш. Ува ўсім гэтым хаваецца шмат розных хвароб і зародкаў шкоднікаў, якія ў наступны год пераносяць сваю шкодную працу на сьвежую гародніну. Пакідаць гарод у такім выглядзе нельга. Неабходна зрабіць поўную прыборку яго. Бацьвіньне і раскіданую гнілую гародніну сабраць, качарэжкі капусты і траву трэба павырываць вывезьці ў поле і спаліць. Прыбраўшы гарод неабходна ўзараць ці ўскапаць яго. Апрацаваная з восені глеба гароду бывае пульхней і вільготней, чым апрацаваная з вясны. Карэньні сорных траў, пры ворцы ад марозу гінуць. Тое-ж самае будзе і з зароднікамі кузурак, якія схаваліся ў глебе, узорваць і ўскопваць гарод на адну рыдлёўку—гэта звычайная апрацоўка. Пры такой апрацоўцы гародніна бывае сярэдняя. Але калі гаспадар хоча выгадваць добрую гародніну, то неабходна больш глыбокая апрацоўка гароду—на $^1/_2$—$^3/_4$ аршына глыбіні. Дзеля чаго трэба зрабіць перавал рыдлёўкаю. Перавал робіцца такім чынам: гарод падзяляюць на вучасткі, а кожны

вучастак разьбіваюць на дзялянкі ў $1^1/_2$ арш. шырынёю кожная; пачынаюць капаць першую дзялянку з першага вучастку. Спачатку выкапваюць на глыбіню рыдлёўкі верхні слой глебы на верх 3-га вучастку. Як верхні слой будзе скідан, то дробную зямлю з дна выкідаюць туды, а дно павінна быць чыстае. Затым капаюць дзялянку на другі штых рыдлёўкі. Пасьля другога штыха зробіцца канава глыбінёю прыблізна $^1/_2$ аршына. Дно гэтае канавы ўскопваюць і зямлі не выкідаюць, а толькі ўспульхняюць. Таксама капаюць і другую дзялянку і кідаюць зямлю ў 1-ую дзялянку і гэтак да канца. Як будзе выраблена апошняя дзялянка 1-га вучастку, капаюць 2-гі вучастак і кідаюць зямлю ў апошнюю дзялянку 1-га вучастку. Перакопку 3 і 4 вучастку робяць так, як і першыя 2 вучасткі. У выніку ўсяе працы гарод будзе перакопан на тры рыдлёўкі, пры чым ніжні пласт застаецца на месцы, верхні ў сярэдзіне і сярэдні на версе.

Пасьля перакопу вынікі будуць гэткія: 1) на глыбіні ¼ аршына будзе знаходзіцца глебавы самы пладародны пласт, у якім і карэньні знойдуць сабе шмат ежы; 2) апынуўшыся зьверху сярэдні бясплодны пласт можа пры ўгнаеньні зрабіцца ўрадлівым; 3) зямля на глыбіні $^1/_2$ аршына будзе пульхнай і будзе мець шмат паветра і дасьць магчымасьць карэньням добра разьвівацца; 4) зямля не зарастае сарнякамі. Толькі што зроблены перавал будзе мець паверхню ня роўную—яе раўнаваць ўвосень ня трэба. Няхай так і застаецца на зіму, каб перавал добра прамёрз, а вясною больш затрымаў у сябе сьнегавой вады. Рана вясною, як толькі можна будзе прыступіць да апрацоўкі глебы, паверхня перавала раўнуецца, і навозіцца гной, які тут-жа і заворваецца ці закопваецца рыдлёўкамі.

Паўтараць такую перакопку гароду трэба цераз 5 год. З прычыны таго, што перавал зьяўляецца даволі труднаю і маруднаю працаю і перакапаць увесь гарод у адзін год цяжка, то звычайна гарод дзеляць на 4 часткі для перакопкі.

Ніжэй прывяду плян, як разьмяркоўваць гарод на дзялянкі і вучасткі:

| 1 вучастак | 2 вучастак | 3 вучастак | 4 вучастак |
|---|---|---|---|
| 1 дзялянка | 11 дзялянка | 21 дзялянка | 31 дзялянка |
| 2 „ | 12 „ | 22 „ | 32 „ |
| 3 „ | 13 „ | 23 „ | 33 „ |
| 4 „ | 14 „ | 24 „ | 34 „ |
| 5 „ | 15 „ | 25 „ | 35 „ |
| 6 „ | 16 „ | 26 „ | 36 „ |
| 7 „ | 17 „ | 27 „ | 37 „ |
| 8 „ | 18 „ | 28 „ | 38 „ |
| 9 „ | 19 „ | 29 „ | 39 „ |
| 10 „ | 20 „ | 30 „ | 40 „ |

Паспрабуйце зрабіць перавал у гэту восень на малым кавалку гароду і вы налета атрымаеце добры ўраджай гародніны. Так я рабіў у мінулым годзе.

(Сарачынава. Меншчына). **А. Карнейчык.**




## Калі лепш садзіць сад—вясною ці ўвосень.

Часта пры пакупцы маладых пладовых дрэў гаспадары пытаюць мяне, калі лепш садзіць сад—увосень ці вясною.

З нашага Фатыньскага выхавальніку пачалі прадаваць маладыя пладовыя дрэўцы з 1870 г. з таго часу шмат было выпадкаў, калі гінулі дрэўцы ня толькі асеньняй пасадкі, але і вясеньняй. З некаторымі з гэтых выпадкаў я і хачу пазнаёміць чытачоў „Плуга“.

Былі выпадкі, што дрэвы і вясеньняй пасадкі гінулі, калі былі высаджаны на глінiстай і шчыльнай зямлі. У мокрыя гады, калі ў чэрвені і ліпені выпадалі дажджы і стаяла цёплая пагода, то ў ямах з пульхнай зямлёй зьбіралася вада і карэньні дрэў, не пасьпеўшыя ўкараніцца, загнівалі.

Увосень 1903 году я пасадзіў 100 пладовых дрэўцаў у фольварку Івана Сакалова Над-Обаль, каля Полацку. Гэтай-жа восеньню сусед Сакалова Дуброўскі, зямля якога знаходзіцца ў 1 вяр., купіў 100 дрэў у Маскве ў Констанціновіча і пасадзіў таксама ўвосень. Летам 1904 г. Дуброўскі папрасіў мяне агледзіць яго згінуўшыя дрэўцы (з Масквы) і высьвятліць прычыну гэтага. Я агледзіў яго малады садок і высьвятліў, што згінулі ў большасьці тыя дрэўцы, якія мелі моцны рост. Усе слабейшыя ўцалелі. Згінуўшыя былі трохгодкі. Для лепшага іх росту вялася падрэзка на шып; ад пагнойнай зямлі дрэвы былі надзвычайна тоўстыя.

Далей мы агледзілі нашы дрэўцы ў садзе Сакалоўскага. Тут дрэўцы ўсе прыжылі і толькі 5 шт., якія мелі моцны рост, крыху падмерзьлі ў вяршынках. Нашы дрэўцы былі сярэдняга росту і таму марозы ім не пашкодзілі.

У 1909 г. у грам. Івана Плыгаўкі (хут. Завыдрана, у 25 вярс. ад Фатыні) было пасаджана вясною 40 дрэў, а ўвосень 37; там-жа ў Пётры ўвосень было пасаджана 10 дрэў і на хут. Істбішча ў Уладыслава Івановіча 10 дрэў. Налета выявілася, што ў Ів. Плыгаўкі ўсяго згінула 27 дрэў (больш асеньняй пасадкі), у Пётры—7 дрэў і ў Івановіча 6 дрэў. Гэта мяне вельмі зацікавіла і я рашыў знайсьці прычыну гібелі высаджаных увосень дрэў.

Летам 1910 г. я паехаў глядзець гэтыя сады і выявіў, што пасаджаныя на высокіх мясцох маладыя дрэўцы, ня былі абнесены нават загародай; зімой на іх здувала сьнег і таму дрэўцы вымерзьлі.

Увосень 1910 г. Іван Плыгаўка зноў пасадзіў з майго выхавальніку 40 дрэў. Пры гэтым я параіў яму 20 з іх прысыпаць зямлёй пасьля пасадкі на 8 вярш., а 20 пакінуць так. На зіму дрэўцы абвязваліся лапкамі і саломаю. Сьнег-жа ўсю зіму каля дрэўцаў абтаптваўся.

У 1911 г. я зноў паехаў да Плыгаўкі аглядзець вынікі гэтае працы. Прысыпаныя дрэўцы мелі вельмі добры выгляд, некаторыя з іх далі вялікі прырост, не прысыпаныя выглядалі горш; лісьце іх пажоўкла, а некаторыя нават і ўсохлі.

У маёнтку Дуброўка, Лепельскага раёну, быў вялікі выхавальнік пладовых дрэў, з якога браліся дрэвы для пасадкі свайго саду, часткаю прадаваліся на старану. У жніўні 1911 г., праяжджаючы каля маёнтку; я заўважыў, што некаторыя з пасаджаных увосень 1910 г. дрэўцы пасохлі. Гэта вельмі мяне зацікавіла і я дазнаўся, што з пасаджаных 227 дрэўцаў высахла 51 шт. Па мойму і тут была тая-ж прычына; ад бязсьнежнай зімы дрэўцы вымерзьлі.

З восені 1911 г. я ўжо раіў сваім пакупцам абавязкова прысыпаць дрэвы асеньняй пасадкі, каб ня гінулі.

У даваенны час дрэўцы ў большасьці выкапваліся з 28 верасьня і высаджваліся ўвосень. У бязсьнежныя зімы большасьць гэтых дрэўцаў, якія былі высаджаны ў надта пагнойную зямлю, гінула. Пры чым гінулі самыя большыя, у якіх ад моцнага росту дравясіна яшчэ не ўмацавалася. І затым раілася заўсёды выкапваць дрэўцы ўвосень, трымаць іх зімою поўляжачымі прысыпанымі зямлёй і высаджваць вясною. Але гэта ня так лёгка зрабіць, бо прысыпаным дрэўцам часта шкодзяць мышы. Цяпер я выкапаныя дрэўцы стаўлю ў канаўку па 5 шт. на адлегласьці ступні, каб можна было прытаптваць сьнег, і прысыпаю зямлёю на 10 вярш. Так дрэўцы добра зімуюць. Калі занадта рослае дрэўца прымерзьне зьверху, дык зьнізу прышчэпы ніколі ня гінуць.

З шматгодняга вопыту я праканаўся, што высаджваць дрэўцы можна і ўвосень і вясною, але трэба толькі абавязкова іх прысыпаць пры асеньняй пасадцы.

У нас у выхавальніку робіцца прысыпаньне нават завачкованых дрэўцаў. Былі гады, калі завачкованыя дзічкі вымярзалі, так што нам прышлося перайці на зімовае прышчэпліваньне маладых дрэўцаў. Але зімовае прышчэпліваньне не дае такога росту, як вачкаваньне.

Прысыпаньне завачкаваных дрэўцаў робіцца позна ўвосень перад замаразкамі конным культыватарам, а пасьля асыпнікам і матыкаю, так што нізка завачкованыя месцы зусім прысыпаюцца зямлёю. Цяпер завачкованыя дрэўцы выходзяць з зімы добра.

Я. К. Мароз.

(Фатынь на Лепельшчыне).

## Зайцы і мышы—шкоднікі садоў і пладовых выхавальнікаў і барацьба з імі.

Вясною нам ня раз даводзілася бачыць, калі цэлыя вучасткі ў пладовых выхавальніках маладых сажанцаў, былі зусім зьедзены зайцамі да паверхні сьнегу, а зьнізу абгрызены мышамі.

Сотні і нават тысячы рублёў, якія можна ўзяць з часам за плады, могуць быць зьедзены гэтымі ворагамі пладавода.

Каб пазбавіць пладавода ад гэтых шкоднікаў, я хачу на старонках нашай часопісі пагутарыць аб некаторых спосабах барацьбы, якія з посьпехам прымяняюцца намі, а таксама і нашымі знаёмымі пладаводамі.

Зайцоў трэба зьністажаць паляваньнем на іх з стрэльбамі і сабакамі. Таксама супроць зайцоў можна карыстацца папярэджваючымі мерамі—гэта будуць усякія спосабы, якія-б палохалі іх. Маленькі званочак, падвешаны да млынка і ўсаджаны на кол, у 1925 г. ў пачатку зімы быў пастаўлен у нашым выхавальніку. Гэта вельмі палохала зайцоў, так што ні адзін заяц туды не паказваўся.

Парэзаная на кавалкі каніна і падвешаная на дрэва, каб сабакі не маглі дастаць, а часткаю раскіданая па садзе, уночы вабіць сабак сваім пахам і зайцы баяцца падыходзіць блізка. Ліс—самы страшны вораг зайца і пах яго на далёкай адлегласьці палохае зайца.

Бярэцца мяса ліса, якое можна дастаць у паляўнічых, кладзецца ў чыгун, туды прыбаўляецца крыху вапны, наліваецца вадой і гатуецца. Ад прыбаўкі вапны мяса добра разварваецца. Гэтай масай і абмазваюць ствалы дрэў. Ніводзін заяц не зачэпіць абмазанага гэтай масай дрэва і нават блізка да саду не падыйдзе.

Таксама добра абмазваць ствалы сьвіной жоўцю (жоўці ад аднае сьвіньні хопіць на абмазку 20-25 маладых дрэў). Калі няма жоўці, то можна абмазваць ствалы крывёю жывёлы. У халодны час яе трэба падагрэць да 30-70°. Усе гэтыя спосабы далі добрыя вынікі.

Яшчэ можна абвязваць ствалы дрэў яловымі лапкамі і саломай, хоць апошняе не заўсёды добра, бо заводзяцца мышы.

Папярэджваючымі мерамі супроць мышэй будзе абтаптваньне сьнегу паміж радкоў і навокал вучасткаў. Гэта робіцца дзеля таго, каб мышы не маглі пад сьнегам залезьці ў выхавальнік. Утаптваньне трэба пачынаць з першага сьнегу і канчаць пасьля другога-трэцяга. Але гэта паможа толькі тады, калі мы будзем упэўнены, што ў выхавальніку ужо няма мышэй. Дзеля-ж гэтага ў выхавальніку трэба ўспульхняць зямлю і зьністажаць усялякія кучы і сарнякі, дзе могуць вадзіцца мышы. Больш пэўны спосаб барацьбы з мышамі будзе зьністажэньне іх пасткамі. Пасткі робяцца розных сыстэм, іх умее пабудаваць кожны вясковы хлопец.

Дзякуючы добрай організацыі лоўлі мышэй, у 1924-25 г. у гаспадарцы Фатынь Я. К. Мароза (Бачэйкава, Віт. акругі) з 23 верасьня да сакавіка злоўлена пасткамі 5780 штук мышэй. Выхавальнік і ўсё, што маглі зьесьці і папсаваць мышы, засталося нечапаным.

**М. Т. Коканаў.**

---

# Як усьцярагчы малады сад зімою ад мышэй.

Часта прыходзіцца відзець, як сяляне неўважліва пакідаюць малады сад зімаваць. Салому ставяць на зямлі. Кругом летняя сухая трава. Другія робяць так, што абкладваюць ствол маладога дрэва гноем, а паверх лубінам. Гэта ўжо проста гатовыя хаткі для мышэй. Калі-ж прыходзіць вясна, то прыходзіцца чуць гутаркі, што дрэўцы пасохлі: мышы іх папсавалі.

Сады на зіму трэба ўважліва даглядаць, затым што ў нас найбольш садзяць іх пры будынку.

Тут я пакажу сваю практыку, як аглядаць дрэўцы на зіму. Сухую траву пры дрэўцы трэба зьнішчыць, зямлю ускапаць, каб каля дрэва было трохі вышэй. Ад гэтага вада пры вясновых замаразках ня будзе застайвацца. Гной акапваць блізка к ствалу ня трэба. Абвязку

ад зямлі трэба прыпадняць хаця вяршкоў на тры. Але бывае, што і паверх абвязкі лезуць мышы і робяць гнёзды.

Са зьнішчэньнем мышэй у мяне было цікавае здарэньне. У 1924 г. восеньню я пакапаў ямкі садзіць сьлівы. Вечарам не пасьпеў пасадзіць. Ямкі былі сажняў на 8 ад хлява. На другі дзень рана, калі падышоў я да ямак, дык там ў 6-ці ямках было па 8 шт. мышэй. Тут я ўявіў сабе, што так можна многа мышэй налавіць. Назаўтра к вечару я накапаў многа ямак па ўсяму саду (каля платоў ямкі не вялікія, глыбінёю вяршкоў на 8-10). Далей назьбіраў нягодных чарапоў, збаноў і паставіў іх у ямках, наліўшы трохі вады. Паверх ямак налажыў канаплянай пацярухі. У мяне былі выпадкі, што за ноч у некаторыя ямкі залазілі па 3-4 мышы.

У будынку таксама добра лавіць мышэй і пацукоў у пасудзіну. Бываюць выпадкі, што пацукі адганяюць кормных сьвіней і коняй. У Нямеччыне я ведаў аднаго гаспадара, які меў 200 пастак для лоўлі мышэй: ён ставіў іх па полі і ў будынку. У нас на Беларусі гэтакіх пастак няма, але іх вельмі проста зрабіць. Бярэцца драўляная трубачка, як клярнэт, а з боку яе пружынка, якая ў выглядзе колца праз папярэчную шчыліну праходзіць у трубачку. Пружынка прывязана ніткаю. Мыш-жа мае звычай пралазіць праз трубкі. Яна акурат дакранецца ніткі або зусім перакусіць яе, а пружына і забівае тут мыш.

Гэту пастку я ўжо змайстраваў. Яна добра нішчыць мышэй адкуль хочаш.

Сел. **К. Запольскі.**

---

# На працы ў дасьледчым выхавальніку Мічурына Ів. У.

Катэдра садоўніцтва Беларускай с.-г. Акадэміі атрымала ліст ад скончыўшай курс агронома-садовода Ф. Старавойтавай, якая вядзе дыплёмную працу у даследчым выхавальніку І. Мічурына ў г. Казлове. З прычыны цікавасьці да працы Ів. У. Мічурына вучонага-самавучкі, зьмяшчаем гэты ліст.

„...Гарачая пара апылкаваньня прайшла, другая ня менш адказная наступае. Мяркуюць завачкаваць каля 100 тысяч дзічак. Штодзень будуць працаваць 15 асоб, якія павінны скончыць вачкаваньне ў месяц.

Усяго 2 месяцы я тут. Зьбіраю, як мага матар'ялы. Праца з апылкаваньнем вялася ў вялізным масштабу.

Апылкаваньне вядзецца і цяпер [3-VII] з гароднінай, вінаградам. Ужо пасьпела любская вішня, пасьпяваюць чарэсьні. У матачным садзе пасьпела шаўкавіца. „Княжэўна поўначы“ [вішня] дасьпявае, але на ёй мала пладоў, ня гледзячы на тое, што цьвіла яна вельмі моцна. Гэткае-ж здарэньне з парэчкай. Апылкаваньне сёлета няўдалае. Пладазавязі вельмі мала.

У сучасны момант мяне займае праца па атрыманьню дрэў і кусьцікаў з адводкаў. Робіцца гэта так: з галінкі здымаецца луб абручом у 3 мілімэтр. шырыні аж да драўніны; на гэту галінку трэба нацягнуць гумавую трубку такога-ж дыямэтра. Канец трубкі ўваходзіць у шкляную трубку з каленам, у якую ўвесь час падаецца пераварная вада. Праз 3-4 тыдні магчыма атрымаць добрыя карэньні там, дзе было зроблена абручкаваньне. Ужо пастаўлена каля 80 трубак і рыхтуюцца паставіць яшчэ больш. Ів. Ул. Мічурын упэўньвае, што гэткім чынам магчыма атрымаць дрэвы, якія хутка пачнуць пладанасіць. Ад гэтых дрэў магчыма ўжо будзе разводзіць расьліны проста чаранкамі, (як гэта робіцца з парэчкамі). Гэтымі днямі адзін адводак з карэнчыкамі пасадзім. Ів. Ул. вельмі зацікаўлен у тым, каб гэткім шляхам адводзіць пладовыя галінкі.

Маю замер надбыць больш пладовых і ягадных расьлін для Горак.

Працую па вывучэньню разьвіцьця бэры зімовай Мічурына. Хутка праходзіць час. Ад 7 гад. раніцы аж да 5 г. штодзенна працуеш, а тады да 10 г. увечары трэба чытаць, пісаць. Каб у 5 разоў працягнуць дзень, то і тады ўсё не абхопіш.

Дыплёмная тэма вельмі абшырна. Пісаць прыходзіцца многа. Пакуль зьбіраю матар'ялы. Апрацаваць да кастрычніка не пасьпею.

Праца мая тут вельмі мне падабаецца, адносіны навакол добрыя. Кіраўніцтва запрашае мяне заняць пасаду супрацоўніцы."

**Ф. Старавойтава.**

г. Казлоў.

---

# Выраб пладовага віна ў саўхозе забалоцьце.

*(Аршанская акруга).*

У канцы лета 1925 г. быў організаваны выраб пладова-ягаднага віна ў саўхозе Забалоцьце. Гэта першая такая організацыя ў БССР. Маючы матар'ялы па організацыі гэтага прадпрыемства, я хачу аб ёй напісаць у „Плузе".

Саўхоз Забалоцьце мае 25,44 дзес. саду; ва ўзросьце 23 г.—1030 дрэў, 402.900 дрэў, з якіх яблын 1930 шт., ігруш 70 штук., сьліў 30 шт., апрача таго ёсьць малін 50 кустоў, парэчак 50 кустоў і агрэсту 70 кустоў.

У 1925 г. гэты сад з ураджаем у 8000 пуд. быў зданы ў арэнду прыватным асобам за 2835 руб. Такая выручка за такі ўраджай, вядома малая, але садаводы ведаюць, што пры здачы сада ў арэнду траціцца 100 проц.

Каб рэалізаваць ураджай садоў самастойна і гэтым павысіць іх даходнасьць, загадчык саўхозу А. П. Антанікоўскі організаваў выраб віна з яблык.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Кошт прыстасаваньня памяшчэньня | 538 | руб | 92 кап. |
| 2. „ абсталяваньня | 2340 | „ | 90 „ |
| Усяго | 2879 | „ | 82 „ |

Для вядзеньня працы быў наняты вопытны вінароб з аплатай 60 руб. у мес. (і кватэра з апалам), у год 720 руб.

На выраб віна пашло:

1. Яблык (летніх і зімовых 2 сорту, пераважна антонаўкі) 1254 п. 22 фун. на сумму 620 руб. 51 кап.

2. Падзённым працаўнікам заплочана 257 р. 71 к.

Вышла суслы 710 вёдзер.

3. Для павышэньня моцы віна ў сусла дабаўлена цукру 113 п. 21 ф. на суму 1154 руб. 08 кап.

Пасьля бражэньня атрымана 14° віна 660 вёдзер. Сабекошт бутэлькі ($^1/_{20}$ в.) віна без накладных расходаў $20^1/_2$ кап.

Накладных расходаў на суму 1663 руб. 92 кап., а ўсіх затрат было 7296 р. 04 кап.

Прадаецца віно па 75 кап. бутэлька або вядро віна без пасудзіны 12 руб. [1]) Прадажны кошт усёй прадукцыі віна 12×660=7920 руб.

---

[1]) Сабекошт яблычнага віна ва Умані на Украіне меншы, а прадаецца па 80 к. бут.

аплачвае поўнасьцю ўсе затраты з прыбыткам 624 руб. Калі-ж адлічыць аднаразовыя расходы, то прыбытак будзе 3503 руб. 82 кап. Чысты прыбытак ад арэнды садоў вылічваецца ў 2022 руб. 58 кап., організацыя-ж пераробкі 1254 п. 22 фун. (прыкладна 1/6 частка ўраджаю) ужо дае даходу 3503 руб. 82 кап.

І так, мы бачым выгаднасьць пераробкі пладоў у віно.

У гэтым годзе выраб віна намячаецца ў 1500 вёдзер.

**Апрача вінаробкі** ў гэтым-жа саўхозе ў бягучым годзе мае працаваць пасьцільна-мармэлядная фабрыка. Разам з вінаробкай яна скарыстае ўвесь ураджай саду. Пры нястачы пладоў думаюць пакуль што купіць іх у бліжэйшага насельніцтва, якое вельмі зацікавілася гэтай справай. 75 проц. віна купляюць сяляне. У Швэйцарыі к канцу мінулага стагодзьдзя (па Веберу) разыходзілася ў год:

| | | | |
|---|---|---|---|
| вінаграднага віна | 240 | міл. | літраў |
| пладовага „ | 240 | „ | „ |
| піва | 156, 75 | „ | „ |
| гарэлкі | 18 | „ | „ |

Трэба адзначыць, што швэйцарцы п‘юць пладовае віно нароўне з вінаградным і вельмі мала гарэлкі.

Мы думаем, што пладова-ягаднае віно будуць з ахвотаю купляць, як рабочыя, так і сяляне БССР. Віно гэта нават карысна піць, яно падмацоўвае чалавека і робіць яго бадзёрым. Аб значэньні організацыі вырабу пладова-ягаднага віна я ўжо пісаў у „Плузе“ (гл. № 2).

Назіраньне ў мінулым годзе за пладамі розных сартоў, якія ляжаць у склепе Акадэміі яшчэ раз падкрэсьлівае, што ўзмацненьню і разьвіцьцю пладаводзтва БССР могуць спрыяць: 1) *тэхнічная перапрацоўка*, 2) *організаваны вываз яблык увосень у другія рэспублікі.*

З нашага погляду выраб пладова-ягаднага віна—гэта шлях да выгаднага рэалізаваньня ўраджаю і разьвіцьця пладаводзтва. Гэтай даходнай галіне гаспадаркі належыць вялікае значэньне ў скарыстаньні свабоднай сялянскай працы ў вёсцы.

„Малазямельле і вялікі лішак рабочай сілы ў вёсках БССР прымусілі шмат сялян к перасяленьню. Адведзены Беларусі перасяленчаскі і колёнізацыйны фонд у разьмеры 15.000 душавых частак толькі на 20 проц. здавальняе заявы сялян-перасяленцаў“ Так пісалася ў „Известиях Цик“.

Наша заданьне паказаць сялянам-гаспадаром, як знайсьці долю ў сябе на бацькаўшчыне, спыніць стыхійнае перасяленьне, бо без дапамогі дзяржавы нічога добрага ад такога перасяленьня ня выйдзе.

*Разьвіцьцё інтэнсыўных галін гаспадаркі зьяўляецца адным з такіх шляхоў.*

**Р. Гуржы.**

# Ад чаго гінуць у нас пчолы зімою.

Хворае пытаньне ў пчалярскай справе—зімоўка пчол. Напрыклад, па Менскай акрузе ў некаторых раёнах пасьля апошняй зімы засталося 50—25 проц. пчол. Гэта гавора, што ў пчаляроў няма належных тэорытычных і практычных ведаў адносна зімоўкі. Разгледзім каротка галоўныя прычыны, ад якіх гінуць пчолы зімою.

Першая прычына—*гэта раеньне пчол*. Прапала ў пчаляра за зіму большая частка пчол, —ну, ён і стараецца разьвесьці іх за лета што больш. Падзяліў на раі, а там „няхай самі сябе даглядаюць", думае ён. Прыдзе вясна—і пчаляр зноў чухае сваю бедную галаву. Не, дзядзькі! Калі вы хочаце хутка разводзіць пчол, дык будзьце ласкавы клапаціцца аб іх пасьля раеньня (натуральнага ці штучнага). Для гэтага не пазьней канца жніўня м-ца трэба праверыць кожную сям'ю пчол: ці працуе ў іх матка, колькі мёду запасена ў гнязьдзе, мо, ёсьць у гнязьдзе лішнія рамкі (з-за чаго можа застужвацца чарва). Пераглядзіўшы, адным трэба прыбавіць рамак, другім замяніць матку, некаторыя слабенькія сем'і пассыпаць разам, а некаторым, дзе мала харчоў, дабавіць мёду або падкарміць цукрам, зварыўшы цукравую сыту (2 шклянкі цукру на 1 шклянку вады); каб сыта не зцукравалася—укінуць ў яе каля 4 грам (1 залатнік) саліцылавае ці лімоннае кіслясьці на кожныя 6 шклянак сыты. Сыту даваць пчолам ледзьве цёплую па 2—4 кіл. (5—10 фунт.) адразу. На зіму гэткая сыта яшчэ лепш для пчол, чым мёд.

Другая прычына зводу пчол—*неправільнае разьмеркаваньне запасаў мёду ў гнёздах*. Як вядома, на зіму пчолы зьбіраюцца ў вадзін клубок. У гэтым клубку яны па чарзе кормяцца мёдам і абаграюцца ў сярэдзіне яго. У гэты час пчолы бываюць у поўсонным стане. Аднача-сова пчолы ўсім клубком паступова перасоўваюцца ўдоўж ці ўпоперак рамак (сотаў), зьнішчаючы па дарозе мёд.

Звычайна пчолы пачынаюць сваю зімоўку ад лятка (вочка) і з тых рамак, на якіх увосень бывае менш мёду, а галоўнае на якіх пазьней ёсьць расплод (чарва). Пры гэтым клубок пчол можа парушыцца ў той ці іншы бок, па досьледах практыкаў-пчаляроў—большай часткай на поўдзень.

Няхай напрыклад, ад сярэдзіны гнязда пчолы парушыліся ў левы бок, дзе акурат было складзена мала мёду: зьеўшы гэты мёд, пчолы загінуць з голаду, бо перасунуцца праз некалькі рамак у правы бок яны ня маюць сілы. А між тым у правым баку застанецца нескарыстаным увесь галоўны запас мёду.

Адсюль відаць, што для забясьпячэньня пчол мёдам на зімоўку, трэба каб з абодвых бакоў ад клуба пчол знаходзілася даволі корму, прыблізна каля 8 кілёграм. (20 ф.) мёду з кожнага боку. Такім чынам, з абодвых бакоў у пчол павінна быць каля 16 кіл. (40 фун.) мёду на зіму. Самыя-ж апошнія весткі па гэтаму пытаньню кажуць, што пчолам трэба пакідаць на зіму па 20—25 кілёгр. (50—60 ф.); тады вясною пчолы шпарка бяруцца ў сілу і даюць вялікі прыбытак гаспадару.

Рамкі з мёдам найлепш разьмеркаваць у такім парадку. Пасярэдзіне гнязда, гледзячы па сіле сям'і, паставіць дзьве, тры рамкі, у якіх менш мёду і больш чарвы. Гэтыя рамкі павінны быць пастаўлены супроць лятка. Паміж гэтымі рамкамі з кожнага боку трэба ўставіць найвашчэйшыя рамкі з мёдам, а ўжо з імі крыху лягчэйшыя. Такое разьмеркаваньне рамак трэба рабіць не пазьней жніўня м-ца, каб усе

пчолы добра ўмацавалі і заляпілі шчыліны смолкаю (праполісам). Дзякуючы такому разьмеркаваньню, пчолам за ўсю зіму амаль што ня прыдзецца перасоўвацца ў бакі, бо каля іх гнязда будзе досыць корму. Там-жа на добрай вашчыне матка закладзе чарву рана вясною.

Вялікую яшчэ шкоду зімою прыносяць тыя рамкі, якія сваімі верхнімі планкамі шчыльна датыкаюцца адна да другой, або калі паверх рамак няма ніякага праходу для пчол. Ня маючы сілы абыйсьці рамку навокал, пчолы гінуць з голаду у той час, як на другім баку ў той самай рамкі мёд застаецца.

У нас на Беларусі, часьцей усяго паверх рамак ня бывае праходу ў вульлі Лявіцкага, але ў апошні час і вульлі Лявіцкага пачалі рабіцца з праходам над рамкамі, дзеля чаго на вышыні 8 мілім. над імі кладзецца на пазах столь з дошак.

*Трэцяя і чацьвёртая прычыны зімняй гібелі пчол—адсутнасьць цяпла і сьвежага паветра ў вульлі.* Часьцей пчолы зімуюць у нас на дварэ. Калі пры гэтым вульлі злёгка прамярзаюць зьверху, з-бакоў ці з-пад дна; на іх сьценках і столі з сярэдзіны вульля асядае шмат вадзяное пары, якая выпадвае з ахладзелага паветра. Справа ў тым, што чым халадней паветра тым менш вільгаці можа яна ў сябе трымаць, а трэба памятаць, што з кожнай шклянкі пeратраўленага мёду выходзіць прыблізна цэлая шклянка вады ў якасьці вадзяное пары; сярэдняя сям'я пчол дасьць за зіму каля 15 шклянак вады.

Бязумоўна, холад у вульлі шкодзіць пчолам і тым, што прымушае іх зьністажаць больш мёду. Але галоўная сутнасьць шкоды тая, што з халоднага паветра выпадвае амаль ня ўся вадзяная пара на халодных частках вульля; бывае, што цэлаю лужаю ў вульлі стаіць вада. Ад гэтага мёд нацягвае столькі вільгаці, што робіцца рэдкім, кіслым і нягожым для кармленьня пчол; пчолы гінуць ад папсаванага мёду і з надзвычайнай вільгаці.

Зусім іншая справа, калі вульлі зімуюць на дварэ і будуць добра ўкутаны ад холаду: цёплае паветра вульля будзе лёгка ўтрымліваць у сябе большую колькасьць вадзяное пары, а сьцены вульляў таксама ня будуць выклікаць асяданьня вады з паветра. Калі вульлі 2-х сьценныя, трэба каб паміж сьцен была зроблена засыпка з сухіх апілак, мяккіх стужак, рэзанае паперы, сухога моху і г. д. Усё гэта павінна быць шчыльна зашалявана, каб паміж сьценамі не завяліся якія-небудзь мурашкі. Калі вульлі аднасьценныя, найлепш унесьці іх на зіму ў цёплы амшанік. Таксама, добра ўкутваюць столь і падлогу вульля. На столь трэба пакласьці тоўстую мяккую падушку, якая павінна шчыльна далягаць да столі, асабліва з краёў. Добра яшчэ пакласьці на столь пад падушку некалькі лістоў газэты. Пад дно вульля можна падшыць грубую саламяную мату.

Адным словам, у нашым клімаце, пры зімоўцы на дварэ ніякае ўкутваньне вульляў ня можа пашкодзіць пчолам. І наша справа, калі пчолы зімуюць у амшаніку (зімоўніку), дзе падтрымліваецца сталая тэмпэратура вышей 5° цяпла. Тады ўся вадзяная пара лёгка трымаецца цёплым паветрам вульля, мёд ня можа ўцягнуць ў сябе належную колькасьць вільгаці і ў пчол пачынаецца смага. Асабліва гэта можа пашкодзіць пад вясну, калі вада бывае неабходна пчолам для кармленьня чарвы. Ад смагі пчолы прыходзяць у неспакой пэцкаюць рамкі, вулей, вашчыну і мёд; у вульлі робіцца душна і горача, пчолы вылазяць праз лётку і гінуць разпоўзшыся па падлозе амшаніка або задушваюцца ў вульлі. Пры зімоўцы ў амшаньніку трэба рэгуліраваць укут-

ваньне (пацяпленьне) вульляў так, каб пчолы ні пакутвалі ні ад вялікай вільготнасьці, (у халодных амшаніках), ні ад вялікай сухасьці (у вельмі цёплых амшаніках). У выпадку, калі ў пчол пачалася смага, трэба даць ім вады.

Нявопытныя пчаляры, як даводзіцца бачыць, амаль зусім затыкаюць на зіму вочкі, каб ня застудзіць пчол. А між тым, недахоп сьвежага паветра ёсьць адна з прычын гібелі пчол зімою. Досьледы вучоных пчаляроў паказваюць, што калі ўзяць аднолькавую вагу пчол і чалавека, дык пчолы патрабляюць прыблізна ў 73 разы больш паветра, чым чалавек за аднолькавы час. Адгэтуль відаць, як неабходна належнае праветрываньне вульляў зімою; вочкі на зіму трэба расчыняць ва ўсю шырыню, асабліва ў амшаніках,—тады папсаванае паветра разам з лішняю парай своечасна паступова выходзіць і замяняецца сьвежым паветрам. Апрача таго, досьледы, як вучоных пчаляроў, так і пчаляроў-практыкаў, паказалі, што для праветрываньня вульля зімою найлепш падыходзяць верхнія вочкі; вучоныя пчаляры тлумачаць гэта тым, што папсаванае паветра, цяжэйшае за чыстае паветра, але яно нагрэта дыханьнем пчол і лягчэй за халоднае паветра, якое ўваходзіць у вулей; вось з гэтае прычыны папсаванае паветра, як лягчэйшае і выходзіць лепш праз верхнія вочкі, чым праз ніжэйшыя. У слабейшых сем'ях ніжэйшыя вочкі на зіму можна амаль зусім зачыняць, калі адчынены верхнія; у сільнейшых сем'ях—ніжэйшыя вочкі трэба рэгуляваць па сіле сям'і. Верхнія-ж вочкі адчыняць ва ўсю шырыню, калі вульлі належным чынам укутаны ад прамярзаньня. Для аховы вочкаў ад халоднага ветру, дажджу і сьнегу, трэба прытуліць да кожнага адчыненага вочка нахіленую дошчачку, каб сьвежае паветра ўваходзіла ў вулей з-пад нізу дошчачкі (казырка). У амшаніках, дзе тэмпэратура не бывае ніжэй 0°, абодвы вочкі трэба пакідаць зусім адчыненымі, а ў вельмі цёплых амшаніках трэба яшчэ паднімаць вулей на клін, альбо адчыняць душнікі, утулкі і г. д. Таксама трэба зьвярнуць належную ўвагу на праветрываньне зімой праз трубы ці інш. спосабам амшанікаў; але пры гэтым трэба падтрымліваць у іх сталую тэмпэратуру ня ніжэй 0°.

*Пятая прычына гібелі пчол зімою—гэта падзь, медзьвяная раса.*

У такія гады, калі лета бывае вельмі засушлівае, пчолы нацягваюць у гнёзда замест мёду салодкі сок, расу, якая выступае на лісьцях ліпы, клёну, дубу і інш. дрэў ці траў альбо выпушчаецца на лісьце трывянымі вашмі.

Для людзей падзь ня шкодзіць, але для пчол на зімоўцы падзь—гэта сьмерць. Папершае, у падзі ёсьць вялікі процант такіх частак, якія ня пераграўліваюцца організмам пчалы; падругое, падзь не ўцягвае ў сябе вільгаці. Хутка ў кішэчніку пчалы зьбіраецца шмат калу, у пчол робіцца вялікая смага, а потым пранос, які застаўляе іх выходзіць на сьнег з вульля, пэцкаць вулей і харч. Пчолы хутка засыпаюцца.

Нейкую дапамогу можна аказаць пчолам, даючы ім ваду; разам з вадой падзь трохі лепш пераграўліваецца, пчолы не пакутваюць ад смагі і прыходзяць у супакой. Ваду ў кармушцы трэба даваць падсаладзіўшы і трохі з сольлю.

У выніку трэба сказаць, што ведаючы ўсе паказаныя ўмовы добрай зімоўкі пчол, пчаляру можна забясьпечыць сябе ад тых вялікіх страт, якія не даюць нашаму пчалярству заняцца даходнаю гаспадаркаю.

**Л. Гаховіч.**




## Дасягненьні ў кармленьні быдла.

*(Новазыбкаўская дасьледчая сел.-гасп. станцыя).*

К восені 1923 г. Новазыбкаўская дасьледчая станцыя з'арганізавала стада мясцовага бурага быдла. Колькасьць стада была 37 галоў. На гэтым стадзе аддзел жывёлагадоўлі станцыі пачаў вывучаць пытаньні правільнага кармленьня кароў, каб павялічыць удой.

Дзякуючы правільнаму, хаця і аднастайнаму кармленьню, каровы скора павялічылі ўдоі. У нашым раёне станцыі, сярэдняя сялянская карова пры жывой вазе ў 18 пуд. дае ў год 70—75 вёдзер малака. На станцыі-ж стада стала даваць па 108 вёдзер малака на 1 галаву ў сярэднім.

Трэба падкрэсьліць, што гэтыя каровы купляліся станцыяй у сялян на базарах. А зразумела, што на базар сяляне вядуць прадаваць самыя горшыя каровы. Купленых кароў правільным кармленьнем заставілі даваць малака ў год на 38 вёдзер больш, чым даюць сялянскія каровы.

З першых-жа назіраньняў над стадам, стала зразумелым, што аднастайны корм трэба замяніць рознастайным, каб каровы раздаіваліся. Загэтым каровам сталі даваць высеўкі, кукурузную муку, павялічылі дачы бульбы і нават абязгорачанага лубіну (вывараныя і прамытыя зярняты). У зьвязку з гэтым каровам сталі менш даваць саломы і сена. Акрамя таго, кароў сталі падкармліваць перад цяленьнем паасобку, каб да ацёлу зрабіць іх досыць сытымі. Карова будзе лепш раздаівацца, калі яна да ацёлу будзе знаходзіцца ў сярэднім целе. Дзякуючы падкормам перад ацёлам каровы сталі даваць яшчэ больш малака—150 *вёдзер у год у сярэднім на галаву.*

Паляпшэньне кармленьня ў бягучым 1926 годзе шло ў тым-жа напрамку: стараліся павялічыць колькасьць кармоў, павялічылі падкормку ў час пашы і перад цяленьнем.

Шукаючы магчымасьці павялічыць колькасьць кармоў, застанавіліся на сілосе. (Вопыты з сілосамі пачаліся з 1925 г.; гэты вопыт паўторны і ў наступным годзе). Сілосавалі, або квасілі ў асобных ямках наступны корм: сэрадэлю, сланэчнік, кукурузу, лебяду і інш. Сіласаваць можна і той корм, які скаціна звычайна ня есьць; пасьля сіласаваньня скаціна з ахвотай яго есьць. Чалавек ня будзе есьці сырую капусту, калі яна яшчэ на градзе, а калі гэту капусту сквасіць, дык яна робіцца смачнай і есцца з ахвотай. Гэта-ж самае бывае і з кормам, які сіласуецца. Кукурузу і сэрадэлю дабаўляюць затым, каб павялічыць смак сілосу. Сіласаваны корм з ахвотай паядаецца скацінай. Ад

яго каровы даюць больш малака і добра раздаіваюцца. У бягучым годзе на станцыі сталі пастаянна даваць і абязгорачаны лубін і павялічылі дачу бульбы да 35 фунтаў.

Гэтая праца па паляпшэньню кармленьня і ўмоў догляду стада прывяла да таго, што *каровы ўжо даюць у сярэднім на галаву 200 вёдзер малака* пры 4,65 проц. жыру. Малако станцыі лічыцца вельмі добрым. А ёсьць каровы, якія даюць ужо па 250 вёдзер малака ў год.

Далейшыя задачы станцыі наступныя: вывучэньне пытаньня летняга кармленьня стада. Дзеля вывучэньня гэтага пытаньня ў гэтым годзе пастаўлен навукова-гаспадарчы досьлед над 4-мя каровамі. Вывучаюцца—1) *выпас скаціны на прывязі*, 2) *летняе трыманьне ў хляве і падкармліваньне сьвежа-скошанымі травамі* (сэрадэляй, выка—аўсянай мешанінай і інш.), 3) *утрыманьне на пашы з* падкормкаю макухаю і 4) *пасьбішчнае ўтрыманьне з падкормкай травой.* Гэты вопыт абяцае цікавыя вынікі.

Вось чаму, калі гаспадар хоча мець карову з добрымі ўдоямі малака, няхай цяпер-жа задумліваецца над правільным кармленьнем і добрым доглядам скаціны. Няхай пастараецца цяпер-жа здабыць рознастайнага корму на ўвесь год. Няхай не забывае, што карову трэба трымаць у добрым целе, паляпшаць летнія выганы, падкармліваць, калі трэба і г. д. Тады к „Сьвяту ўраджаю“ будучага году, ён зьбярэ добрую жатву на сваёй скаціне.

**К. Хвалей.**

(Новазыбкаўская дасьледчая с.-г. станцыя).

---

# Трэба падлічаць корм увосень.

Кожны гаспадар прыблізна падлічвае запасы корму.

Абмалаціўшы збожжа і зважыўшы салому і мякіну, запраўды можна дакладна падлічыць увесь запас саломы. Сена ў стагу можна падлічыць абмерам. Адзін куб. аршын важыць $1^1/_2$ пуды.

Для правільнага кармленьня жывёлы патрэбен вучот запасаў і штодзенных патрэб у корме. Кожная гаспадарка павінна запасьці корм на ўвесь стойлавы перыод у 210 дзён.

Сярэдні сялянскі конь пры звычайнай працы, павінен быць забясьпечан на кожны дзень 15 ф. сена і 5 ф. аўса ($1^1/_2$ гарцы). На год яму трэба 75 п. сена і 25 п. аўса. На жарабя 1-2 год трэба амаль што, палову гэтай колькасьці.

Сярэдняя карова ў 15 п. вагі з 15 ф. удоем пры цельнасьці і ў халодным хлеве патрабуе штодня 10-12 карм. адзінак, прыблізна з гэткім сярэднім падборам корму:

| У дзень | За зіму |
|---|---|
| 12 ф. сена на 3 карм. адз. | 60 п. |
| 5 ф. саломы на $^3/_4$ карм. адз. | 25 п. |
| 2 ф. мякіны на $^1/_2$ карм. адз. | 10 п. |
| 10 ф. бульбы на 2 карм. адз. | 50 п. |
| 2 ф. высевак на $1^1/_2$ карм. адз. | 10 п. |
| 2 ф. макухі на $2^1/_2$ карм. адз. | 10 п. |
| 10—20 ф. караньплодаў на 1—2 кар. адз. | 50—100 п. |

Сьвіней трэба забясьпечваць кормам так, каб на кожныя $2^1/_2$ пуд. агульнае вагі сьвіней прыпадала 2,5 ф. зярна ў дзень (на пуд вагі адзін фунт зярна) з заменай $^1/_2$ ці $^1/_3$ яго часткі на бульбу. На 3 сьвіней, вагою 18 пудоў, патрэбна 18 ф. зярна ў дзень, або 8 ф. зярна і 40 ф. бульбы.

Кожнай авечцы трэба па 3 ф. сена і 2 ф. яравой саломы.

Колькі ўсяго корму трэба сярэдняй гаспадарцы, калі яна мае пераліцаны склад хатняй жывёлы, паказана ў табліцы:

| Жывёла. | Сена. | Аўса. | Саломы яравой. | Саломы аз. з надбаўкай. | Зярна ўсякага і высевак. | Бульбы. | Макухі. | Караньяплодаў. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Каню рабочаму . | 75 п. | 25 п. | 10 | 20 | — | — | — | — |
| Жарабяці . . . | 50 п. | 15 п. | 5 | 15 | — | — | — | — |
| Карове дойнай . | 60 п. | — | 25 | 40 | 10 | 50 | 10 | 170 |
| Цяляці . . . . | 30 п. | — | 15 | 30 | 5 | 15 | 3 | 25 |
| Сьвіньням—3 шт. | — | — | — | 20 | 40 | 210 | — | 25 |
| Авечкам—3 шт. . | 36 п. | — | 9 | 15 | — | — | — | — |
| Усяго . | 256 п. | 40 п. | 64 10 п. мякіны. | 140 | 55 | 275 | 13 | 220 |

Часьцей даводзіцца прыкупаць у корм макуху, а рэшта корму здабываецца ў самой гаспадарцы, калі яна мае сеяныя травы, караньплоды і даволі высокія ўраджаі.

Наогул, кожная гаспадарка, калі яна дбае аб добрых выніках гадоўлі жывёлы, павінна недастаючы корм прыкупіць з восені, калі ён дзяшэўшы.

Апрача складаньня пляну і разрахунку, якіх кармоў і для якой жывёлы патрэбна, заўсёды лепш мець адну галаву добрай жывёлы, адну карову чым некалькі дрэнных, бо добрая жывёліна корміць гаспадара, а дрэнная—гаспадару страта.

Сяляне! З восені ўцыпляйце хлявы, будуйце кармушкі, запасайце сечку і наогул падрыхтоўвайце больш смачны корм.

Усяго гэтага патрабуе разьвіцьцё даходнае жывёлагадоўлі, да якой мы жадаем прыйсьці.

**П. Ластоўскі.**

# Захапляцца чужымі пародамі-значыць ніколі не стварыць сваёй пароды.

**Правільнае кармленьне, належны догляд і адпаведны падбор па прадукцыйнасьці—вось што стварыла чужаземныя пароды.**

У нашым Саюзе ўсё яшчэ вядзецца заядлая спрэчка аб выбары пароды; пры чым кожны, хто прапануе тую ці іншую пароду, тлумачыць значэньне пароды па свойму. Гэткае зьявішча яшчэ поўбяды, калі яно мае месца сярод сялянства, але больш смутна, калі спрэчкі ідуць сярод нашых вучоных спэцыялістых і прадстаўнікоў навукі.

Па сутнасьці-ж *„паняцьце аб пародзе"* яшчэ неясна і ў розных вучоных мы сустракаем розныя погляды і вынікі азначэньняў.

Адны гавораць, што ў аснову паняцьця аб пародзе трэба класьці масьць, адсутнасьць і прысутнасьць рагоў, гаспадарчыя адзнакі; іншыя лічуць найбольш характэрнымі тыя адзнакі пароды, якія заключаюцца ў надворным выглядзе, у масьці жывёлы, якія перадаюцца па насьледзтву. Ёсьць яшчэ шмат іншых поглядаў, думак і азначэньняў. Калі паглядзець з боку на гэтую навуковую неразьбярыху, дык трэба прыйсьці да заключэньня, што *даць дакладнае азначэньне паняцьця аб пародзе сельска-гаспадарчых жывёл нельга:* адносна гэтага існуе поўнае самавольства. К прыкладу скажам, што ост-фрысланскі, ольдэнбурскі і гановэрскі скот, які мае падабенства па надворнаму выгляду і вытворчасьці да галяндэрскай пароды, адны лічуць пародамі, а другія атродзьдзямі. Таксама і распаўсюджаны ў паўночнай паласе СССР мясцовы скот у некаторых раёнах гэтай абшырнай прасторы пад уплывам натуральна-гістарычных і гаспадарчых умоў (яраслаўскі, уладзімірскі, кастромскі, вяцкі і інш.) *некаторымі прызнаецца за пароду, а іншымі за атродзьдзе велікарускай пароды.*

Ангельцы ў гэтым напрамку аказаліся больш рашучымі і аб'явілі ўсе пароды белых сьвіней, палепшаных прыліцьцём крыві індыйскай сьвіньні адной пародай пад назвай белай ангельскай сьвіньні.

Па сутнасьці-ж, калі-б мы на момант адышлі ў бок ад групы вучоных і запыталі-б саміх сябе, што мы разумеем пад паняцьцем пароды, дык пэўна мы прышлі-б да падобнага заключэньня, што ўсякая парода не звалілася з неба; усюды і заўсёды на зямной кулі былі жывёлы, якія пад уплывам кліматычных і глебавых умоў паступова прымалі пэўныя аднародныя формы і ў часе натуральнага расплоду перадавалі свой тып па насьледзтву, кажучы, іншымі словамі атрымоўваліся прымітыўныя пароды, чаму не пярэчыць ніводзін гісторык, ні зоолёг. Але зоотэхнія паступова пачала высоўваць яшчэ новыя патрэбы адносна гэтых прымітыўных парод; далей разам з разьвіцьцём культурнага жыцьця гэтыя прымітыўныя пароды пад кіраўніцтвам асобай групы знаўцаў зоотэхніі і завадзкой творчасьці *„скатазаводчыкаў"* паступова ператварыліся ў культурныя пароды, якія адзначаюцца сваёй тыпычнасьцю і высокай вытворчасьцю.

Адсюль ня цяжка зрабіць вывад, што тыпіроўка прымітыўных парод залежыць ад натуральна-гістарычных умоў і культурных імкненьняў гаспадароў (скатазаводчыкаў), *інакш прыкладаньне рук і ведаў чалавека да стварэньня жывёлы высокай прадукцыйнасьці.*

Такое асноўнае азначэньне былда гаспадару неабходна ведаць, бо прымітыўныя пароды, да якіх мы можам аднесьці і наш беларускі

скот, надта невымагальныя, якія згаджаюцца са ўсякімі цяжкімі ўмовамі жыцьця. Гэтым яны і адрозьніваюцца ад культурных парод, патрабуючых вельмі добрага догляду і правільнага кармленьня.

Пасьля гэтага зразумела, чаму чужаземныя пароды, якія вывезены яшчэ да вайны памешчыкамі і часткаю папалі ў сялянскія гаспадаркі ў час грамадзянскай вайны, не захаваліся, а пакінулі пасьля сябе толькі „*масьць, рожкі да ножкі*“, яны страцілі свае гаспадарча-карысныя адзнакі, або *вырадзіліся*.

Калі мы пачнем і ў далейшым захопплівацца галяндэркамі, сіменталамі, швіцамі і іншымі чужаземнымі пародамі, а з гэтым мы спатыкаемся пры кожнай гутарцы з сялянамі, то гэта будзе тое самае, што стаць у залежнасьць ад чужаземных дзяржаў і ніколі не стварыць сваёй пароды; тым больш цяпер-жа мы пачынаем перабудоўваць нашу вёску, пашыраць культурныя прыёмы гаспадараваньня ў мэтах падняцьця таварнасьці сялянскіх гаспадарак.

Кожны вясковы гаспадар павінен ведаць, *што наша парода знаходзіцца ў нас дома*, але, каб яеператварыць у культурную пароду, неабходна апроч зьніштажэньня трохпалёўкі ў паляводзтве, *зьніштожыць трохпалёўку ў жывёлаводзтве*, якая заключаецца ва ўтрыманьні ската ў халодным, цесным і цёмным хлеве і кармленьні выключна саломаю і сенам.

Завесьці культурную пароду, гэта значыць прылажыць да жывёлы рукі і веды, увесьці шматпольле з пасевам траў і караньплодаў, уцяпліць і асьвятліць скотныя хлявы, увесьці ў кармовую дачу спажыўныя і сакавітыя кармы (высёўкі, макуха і караньплоды), карміць па нормах, падбіраючы племянікоў для стада не па масьці, а па прадукцыйнасьці.

Усяго гэтага лягчэй дабіцца, калі гаспадар уступае ў кантрольнае таварыства.

*Правільны догляд, кармленьне і адпаведны падбор племені па прадукцыйнасьці*,—вось што стварыла чужаземныя культурныя пароды. Яны не зваліліся з неба, і ў нас не зваляцца.

*Вось гэтым шляхам і мэтадам і мы створым нашу культурную пароду, але трэба працаваць не пакладаючы рук.*

**І. Н. Атабекянц.**

# ВЭТЭРЫНАРЫЯ

## Як аберагчы хатнюю жывёлу ад хвароб.

*(Бяседа вэтэрынара).*

Толькі здаровая скаціна можа даваць гаспадару найбольшую карысьць і аплачваць сваё ўтрыманьне. Пры ўсякай хваробе, якая-б яна ня была, жывёла зьмяншае працу—цішэй бяжыць, дрэнна цягне воз, мала дае малака ў параўнаньні з тым часам, калі яна была здаровай. Апрача таго, сельскім гаспадаром добра вядома, што скаціна можа захварэць на такія хваробы, якія бываюць небясьпечны і сьмяртэльны ня толькі для яе самой, але і для людзей. Гэтыя хваробы так і завуцца павальна-заразьлівымі, напрыклад, насаціна, сібірская язва, яшчур, сухоты і інш. Адсюль вынікае, што чалавек павінен ахоўваць жывёлу ад хвароб.

Таксама трэба памятаць, што жывёла, як і чалавек, патрабуе добрага догляду. Ад думкі, што „скаціна ўсё сьцерпіць“, не адпавядае праўдзе; ад яе трэба зусім адмовіцца. На падставе той-жа несправядлівай думкі разважаць, што хворую жывёлу лёгка вылечыць, а затым і надта баяцца няма чаго. І гэта ня так. Жывёлу наогул трудней вылечыць, чым чалавека. Калі вясковыя канавалы і шаптуны кажуць, што гэта няпраўда, то ім ня трэба верыць, а заўсёды зьвяртацца з хворай жывёлай толькі да вэтэрынара. Канавалы нічым не памогуць, а грошы возьмуць. Лепш дапаможа жывёле сам гаспадар, добра даглядаючы яе і карыстаючыся толькі тымі сродкамі, якія параіць яму вэтэрынар. Калі перавесьці на грошы той убытак, які прыносіць хворая жывёла, то атрымаецца значная лічба. Напрыклад, карова хварэе два тыдні і пры гэтым убавіла малака на $1/4$ вядра кожны дзень; лічачы па 50 кап. за чвэрць, атрымаем убытку 7 руб. Апошні яшчэ больш павялічыцца, калі карова і далей будзе хварэць і зусім ня будзе даваць малака. Ня менш прыносіць убытку і хворы конь. Працоўны дзень з канём аплачваецца ня менш 3-х руб., а за два тыдні гаспадар страціць 42 руб. Мы ўжо ня кажам аб тым аграмадным убытку, які адчувае сям‘я і гаспадарка, калі гіне скаціна. Гэта бяда добра вядома сельскім гаспадаром.

Каб аберагчы скаціну ад хвароб, якія прыносяць гаспадарцы няшчасьце, мы і хочам пагутарыць тут з гаспадарамі аб тых разумных правілах і мерах, карыстаючыся якімі можна надоўга захаваць здароўе скаціны і доўга карыстацца яе службай. Гэтымі правіламі і мерамі, як мы ўжо раней казалі, *будзе добры догляд за скацінай.* Гэта тое самае, што патрэбна і чалавеку—*добрая здаровая яда, чыстае памяшканьне, неабходны адпачынак, чыстата цела, асьцярожнасьць пры доглядзе за хворымі, асабліва на пошасныя хваробы.* Вось важнейшыя меры, якія вядуць к здароўю і доўгавечнасьці чалавека і жывёлы. Знача, чалавеку трэба клапаціцца аб хатняй жывёле, якая знаходзіцца ў яго карыстаньні.

*Кармленьне.* Гаспадар добра ведае, як пакарміць каня, карову, але часта бывае, што корму дае ён многа, а карысьці ад гэтага мала: карова мала дае малака, а конь дрэнна працуе. Тут напэўна прычына ў кармох. Вось аб гэтым і трэба пагутарыць. Як чалавек, наеўшыся дрэнна зваранай ці сапсаванай стравы, адчувае сябе дрэнна, так і жывёла, атрымаўшы дрэнны корм, слабее і горш працуе. Разважаючы, што скаціна ўсё зьесьць, што ні дай, гаспадары памыляюцца і часта бываюць прычынай таго, што скаціна слабее. Даючы скаціне пераважна салому ды мякіну пры малой колькасьці сена і высевак ці мукі, вядома, нельга спадзявацца і на добрае яе здароўе. Грубы корм, асабліва калі ён сухі, дрэнна страўляецца жывёлай, ад чаго яна хварэе на ўздуцьцё жывата. Вядома, пры гэтым жывёла ня можа ні працаваць, ні даваць малака. Калі жывёла заўсёды атрымоўвае грубы корм, то ў яе бывае вялікі жывот, ад чаго яна і працуе горш. Ад грубога корму жывёла слабее яшчэ і таму, што ў ім мала патрэбных для цела пажыўных матэрый. У грубым корме (салома, мякіна, сена) мала бялку і шмат дравясіны; між тым бялок служыць самай галоўнай пажыўнай матэрыяй, як чалавеку, так і жывёле. Корм багаты на бялок, называецца моцным, або спажыўным. Да такіх кармоў належаць збожжа і стручковыя (авёс, ячмень, жыта, пшаніца, гарох, боб і інш.), макуха (ільняная, канапляная і інш.), мука, высеўкі і інш. Асабліва каштоўна макуха. Даволі даць жывёле ў дзень 5-7 фун. ма-

кухі з грубым кормам, як каровы пачынаюць павялічваць удоі. Затым трэба ўсімі сіламі імкнуцца зрабіць запас макухі ў гаспадарцы.

Гаспадары могуць падумаць, што моцныя кармы дорага абойдуцца, але гэта ня так. Тыя гаспадары, якія даюць скаціне моцны корм, ведаюць яго сходнасьць, якая ў шмат разоў перавышае затраты на корм. Сходнасьць гэта выяўляецца на здароўі скаціны, яе прадукцыйнасьці і доўгачаснай службе. Але бяз грубога корму таксама абыйсьціся нельга, тым больш, што ў гаспадарцы яго заўсёды многа. Толькі гэты корм трэба даваць скаціне ня сухім, а паранкай. Дзеля гэтага патрэбен чугун, або асобны апарат—запарнік.

Каб скаціна была здаровая, ёй трэба даваць розны корм, бо адзін і той-жа хутка прыядаецца; жывёла неахвотна яго есьць, а затым і не наядаецца. Можна карміць скаціну саломай, мякінай і сенам у мешаніне з зярном, высеўкамі, мукой, макухай, бульбай, буракамі, рэпай, капустай і інш. Макуху таксама трэба даваць розную, напрыклад, ільняную, канапляную і інш. Але трэба глядзець, каб корм быў добрай якасьці і не даваць сапсутага корму. Таксама заплесьнеўшы, прагорклы, прамёрзлы, гнілы, тухлы і інш. папсуты корм ня трэба даваць скаціне. Такі корм ня толькі мала пажыўны, але і шкодны для скаціны; ад яго жывёла хварэе на ўздуцьцё жывата, пранос, колікі і інш. хваробы, ад якіх часта падае. Для падтрыманьня здароўя і бадзёрасьці, добра скаціне даваць разам з кормам соль. Даволі раз у тыдзень падсыпаць да корму 3-4 зал. солі. Ад гэтага паляпшаецца страваваньне, сіла і праца жывёлы.

Яшчэ трэба сказаць, што корм скаціне лепш даваць тры разы ў дзень—раніцою, днём і вечарам. Ад гэтага таксама залежыць у значнай меры падтрыманьне здароўя хатняй жывёлы.

Вэтэр. **М. Жарын.**

# ЗЕМЛЯУПАРАДКАВАНЬНЕ

## Продаж будынкаў у сельскай мясцовасьці.

У гарадох і пасяленьнях гарадзкога тыпу сядзібная зямля лічыцца як-бы прыналежнасьцю будынкаў. Дзеля гэтага, калі тут з захаваньнем належных формальнасьцяй прадаецца дом не на знос, то разам з ім перауступаецца і права карыстаньня сядзібнай зямлёй каля дому.

Зусім інакш стаіць справа з продажжу будынкаў у сельскай мясцовасьці. Туг перауступіць каму-небудзь зямлю працоўнага карыстаньня нельга. Продаж зямлі забаронена. Атрымаць зямлю ў карыстаньне можна толькі ад зямельных установ.

Дзеля гэтага працоўны зямлякарыстальнік свае будынкі можа прадаць без захаваньня ўсякіх формальнасьцяй толькі на знос.

Прадаць-жа свае будынкі з тым, каб пакупнік карыстаўся імі на месцы, можна толькі таму, хто наўперад атрымае ад зямельных установ у парадку надзяленьня альбо земляўпарадкаваньня сядзібную зямлю прадаўца будынкаў.

Такое надзяленьне можа вынікнуць толькі ў тым выпадку, калі прадавец будынкаў будзе пазбаўлены права на сваю зямлю, напрыклад, перастане займацца сельскай гаспадаркай і выедзе з вёскі.

У парадку земляўпарадкаваньня часта сядзіба аднаго землякарыстацеля перадаецца другому. Можа здарыцца, што першаму выгадней будзе на адведзенай яму зямлі пабудаваць новыя будынкі, а старыя прадаць, а другі захоча купіць гэтыя будынкі ня маючы сваіх годных, да пераносу.

Калі будынкі прадаюцца з пакіданьнем іх на месцы такому грамадзяніну, які атрымаў ад зямельных установ сядзібную зямлю пад будынкамі, то такая прадажа абавязкова павінна быць зарэгістравана ў Райвыканкоме.

Рэгістрацыя выконваецца шляхам занясеньня зьдзелкі ў агульную кнігу ўмоў, якую вядзе зямельны стол. Спагнаньне за гэту рэгістрацыю якіх-небудзь збораў законам не ўстаноўлена.

Урэшце, калі працоўны землякарыстальнік незаконна прадасьць каму-небудзь свае будынкі разам з сядзібай, то апошняя адбіраецца па выніку раённай зямельнай камісіі ад абодвых удзельнікаў зьдзелкі і залічваецца ў запасны фонд для надзяленьня таго, з жадаючых атрымаць зямлю працоўных землякарыстальнікаў, хто мае права на атрыманьне яе ў парадку вызначанай чаргі.

**Аўг. Вішнеўскі.**

# Усынаўленьне.

Пад усынаўленьнем разумеецца прызнаньне за чужымі асобамі юрыдычнага палажэньня сваіх дзяцей.

Дарэвалюцыйнае заканадаўства (арт. 145, т. X ч. I св. зак.) дазваляла ўсынаўляць толькі тады, калі ўсынаўляючы ня меў сваіх дзяцей. Такім чынам, як агульнае правіла, усынаўляць мог толькі бяздзетны. Такое строгае правіла было ўстаноўлена таму, што ўсынаўленьне можа парушыць правы ўласных дзяцей і што ўвядзеньне ў сям'ю, дзе ўжо маюцца дзеці, новых ня крэўных асоб, можа быць прычынай сямейных спрэчак.

Выданыя палажэньні дарэвалюцыйнага права тлумачацца буржуазным ухілам дарэвалюцыйнага жыцьця і адпаведным яму напрамкам заканадаўства, якое ў першаю чаргу клапаціцца аб ахове маемастных інтэрэсаў „законных“ дзяцей.

Але і ў дарэвалюцыйны час разумелі, што гэтыя абмежаваньні ня можна правесьці ў сялянскім жыцьці з яго трудавым прынцыпам. Затым мы бачым, што, напрыклад, дарэвалюцыйны проэкт грамадзянскага Код. (арт. 460) пастанаўляе, што гэтыя абмежаваньні „не распаўсюджваюцца на ўсынаўленьне сялянамі“. Тым больш, вядома, ня могуць быць гэтыя абмежаваньні ў наш час, калі новае жыцьцё сьцірае перажыткі, старых аджыўшых поглядаў.

Кодэкс законаў аб актах грамадзянскага стану, выданы ў першыя гады рэвалюцыі, зусім ня ведае ўсынаўленьня, бо ў час выданьня гэтага кодэксу вялікай патрэбы ў усынаўленьні ня было і што ў сялянскім жыцьці яно можа быць заменена „прыёмам“, які прадугледжаны арт. 64 Зям. Код.

Аднак жыцьцё паказала, што прыём у двор па 64 арт. Зям. Код. ня можа замяніць усынаўленьня, а сярод гарадзкога і мястачковага насельніцтва і такога спосабу павялічэньня складу трудавой сям'і няма.

Гэтым і тлумачыцца імкненьне заканадаўства Саюзных Рэспублік запоўніць прабел існуючага і ўвесьці інстытут ўсынаўленьня.

НКЮ БССР пры складаньні проэктаў кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апякунстве увёў у яго і разьдзел III аб усынаўленьні.

Галоўныя палажэньні ўсынаўленьня па гэтаму проэкту такія:

1) Усынаўляць могуць усе грамадзяне, дасягнуўшыя 20-ці годняга ўзросту, якія не пазбаўлены праў. Пры гэтым усёроўна, ці будуць яны жанаты, ці ня маюць сваіх дзяцей або ўсыноўленых ці не. Спэцыяльнай умовай для ўсынаўляючага зьяўляецца запатрэбаваньне, каб ён быў старэй усынаўляемага ня менш як на 20 год.

2) Усынаўляць можна асоб, якія ня маюць 18 год і толькі для сялян гэта абмежаваньне адпадае.

3) Усыноўлены па нашаму проэкту мае такія-ж правы, як і дзеці ўсынаўляючага.

4) Вырашаюць пытаньні аб усынаўленьні апякунскія ўстановы (па проэкту прэзыдыума сельсавету, мястачковых саветаў, або гарадзкіх саветаў).

Такім чынам, наш проэкт кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апякунстве ўводзіць ўсынаўленьне ў такой форме, якая зусім падыходзіць у наш час і затым трэба толькі пажадаць, каб разьдзел III азначанага кодэксу па прыкладу РСФСР і УССР быў праведзен у жыцьцё, не чакаючы зацьвярджэньня ўсяго кодэксу. Першыя дзьве часткі якога аб шлюбе і сям'і патрабуюць яшчэ некаторых зьмен.

Б. Ватацы.

# АБАРОНА КРАІНЫ
# І СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## Ваенна-хэмічная прамысловасьць для росту ўраджаяў.

Сучасная вайна амаль выключна хэмічная. Вопыт апошняй сусьветнай вайны паказаў, што тая краіна ў вайне пераможа, у якой больш развіта хэмічная прамысловасьць. Прыкладам гэтаму можа быць Нямеччына. Ня гледзячы на тое, што супроць яе ішоў амаль увесь сьвет, яна трымалася доўга. Гэта толькі дзякуючы значнаму разьвітку яе хэмічнай прамысловасьці. Калі ворагі разьлічвалі, што ў Нямеччыне ня хопіць салетры на прыгатаваньне падрыўных ваенных рэчаў [1]), то яны памыліліся. Нямецкія хэмікі і інжэнеры ў час вайны навучыліся выкарыстоўваць азот паветра, якога ўсюды нязьмерная колькасьць. Перш з азоту паветра палучылі аміяк, а яго лёгка перавесьці ў азотную кісласьць і салетру.

Таксама ёсьць сувязь паміж прамысловасьцю мірнага часу і ваеннага. Сувязь гэта вызначылася даволі цесна. Прадукты ваенна-хэмічных заводаў могуць быць выкарыстаны ў мірны час, як у прамысловасьці, так і ў земляробстве. Напрыклад, удушлівы газ хлёр у мірны час выкарыстоўваецца ў тэкстыльнай і гумавай прамысловасьці, фасген у афарбовачнай справе і г. д. Шмат якія шкодныя газы, якімі карыстаюцца на вайне, могуцьісьці ў мірны час на барацьбу са шкоднікамі сельскай гаспадаркі.

Таксама падрыўныя матар'ялы можна выкарыстаць для карчоўкі пнёў. Такім чынам, калі бліжэй прыглядзецца, то ўбачым, што галіны хэмічнай прамысловасьці могуць быць скарыстаны ў земляробстве: яны могуць даць неабходныя мінэральныя угнаеньні.

Найбольш патрэбным угнаеньнем для нашых палёў зьяўляецца супэрфосфат. Для яго вырабу патрэбна серная кісласьць, як і для ваенных падрыўных матар'ялаў.

Аб разьмерах вырабу супэрфосфату ў даваенны час сьведчыць паказаная табліца ў тысячах тон (тона 60 пуд.).

| | 1903 г. | 1910 г. | | | 1903 г. | 1910 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Амэрыка . | 1.452,6 | 2.858,4 | тон. | Бельгія . . | 208,8 | 394,2 | тон. |
| Францыя . | 1.053 | 1 634 | „ | Галандзія . | 208 | 388 | „ |
| Нямеччына | 765 | 1.353.6 | „ | Скандзінавія | 99 | 144 | „ |
| Англія . . | 655,2 | 750,9 | „ | Аўстра-Вэнгрыя . . | 57,6 | 221,4 | „ |
| Італія . . | 392,4 | 806.4 | „ | | | | |
| Данія . . | 19,8 | 55,4 | „ | Расія . . | 43.2 | 88,2 | „ |

[1]) Да вайны Нямеччына праводзіла салетру з паўднёвай Амэрыкі.

Калі для вырабу супэрфосфату патрэбна серная кісласьць, то поруч з супэрфосфатным заводам павінен быць завод для вырабу сернай кісласьці, якая ў мірны час пойдзе на здабываньне супэрфосфату.

У сучасны момант, можа і ў часе было-б гаварыць аб пабудове супэрфосфатнага заводу на Калінінщчыне, дзе знойдзены фосфарыты і якія можна перарабляць на супэрфосфат. Супэрфосфат паможа паднящь нашы ўраджаі.

Ня меншае значэньне мае і азот салетры ў сельскай гаспадарцы і ў вайне. Азот патрэбен расьлінам, як неабходная пажыўная матэрыя. У ваенны ж час ён пойдзе, падобна і сернай кісьласьці, на здабываньне падрыўных матар'ялаў.

Нямеччына праз хэмічную прамысловасьць цяпер здабывае такую колькасьць азоту з паветра, што яго прадае нават і ў другія краіны.

Паказваю яскравыя лічбы, якія сьведчаць аб сувязі ўраджаю з колькасьцю ўжываньня хэмічных (мінэральных) угнаеньняў у розных краінах:

| Ураджай 1908—1912 г. г. (у пуд. на дзесяціну) | Бельгія | Нямеччына | Францыя | СССР |
|---|---|---|---|---|
| Пшаніца . . . . | 160 | 140 | 90 | 44 |
| Жыта . . . . . | 150 | 120 | 70 | 50 |
| Авёс . . . . . | 150 | 120 | 85 | 52 |
| Хэмічныя ўгнаеньні за 1911—1912 г. г. (кілаграм на 1 гэктар) | | | | |
| Фосфарна-кіслыя . | 7,75 | 4,43 | 2,88 | 0,323 |
| Калійныя . . . . | 1,33 | 3,48 | 0,18 | 0 039 |
| Азотныя . . . . | 3,97 | 1,27 | 0,13 | 0,022 |
| Усяго . . | 13,05 | 9,18 | 3,19 | 0,384 |

У час вайны, калі Нямеччына амаль ня ўсе свае хэмічныя заводы паставіла для здабываньня падрыўных матар'ялаў, а таксама ня было падвозу фосфарытаў, то паменшылася здабываньне хэмічных угнаеньняў, а разам з гэтым зьнізіліся і ўраджаі да узроўню 1890 г. Толькі з 1920 году ўраджаі сталі зноў паднімацца.

Адгэтуль відаць, што пры добрым разьвітку хэмічнай прамысловасьці будзе расьці і ўраджай сельскай гаспадаркі, а ўсё гэта дае магчымасьць і даць належны адпор таму, хто ўздумае на нас нападаць.

**П. Трус.**

Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

**Выданьне Наркамзему**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі, Шукевіч.* *А. Смоліч,* *Сьц. Тупяневіч.*